ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 33 (2612)
ПЯТНІЦА
18
жніўня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Брыгадзір трэцяй брыгады В. Філіповіч, камбайнер А. Бацяноўскі і старшыня калгаса «Звязда» А. Грынкевіч.



Аўтары фільма «Савецкая Беларусь» — рэжысёр Чэслаў Цяўлоўскі і сцэнарыст паэт Анатоль Вялюгін.



Ганна Мініч — лепшая лінатыпістка паліграфкамбіната, сваю прадукцыю яна здае з першага прад'яўлення.

Фота Ул. КРУКА.

50 год утварэння СССР

Рупнаю працай адзначаюць савецкія людзі 50-годдзе вялікай сям'і народаў нашай краіны — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Рапарты працоўных перамог радуюць і натхняюць.

Завяршаецца ўборка збажыны ў перадавой гаспадарцы Смалявіцкага раёна — калгасе «Звязда». Да хлеbaboраў з канцэртам прыехала агітбрыгада «Неспакойныя сэрцы». Рэпартаж пра гэта чытайце на 2—3 старонках.

І работнікі мастацтва актыўна рыхтуюцца да залатога юбілею нашай краіны. Неўзабаве адбудзецца прэм'ера каляровага дакументальнага тэлевізійнага фільма «Савецкая Беларусь», які будзе трансліравацца праз Маскву па Інтэрбачанні. Пра здымкі фільма чытайце матэрыял на 2—3 старонках.

Краіна, якая найбольш чытае,— так гавораць пра нас ва ўсім свеце. Дзесяткі назваў кніг сыходзяць штодзень з канвеера Мінскага паліграфкамбіната імя Якуба Коласа. Падручнікі для школ, палітычная, мастацкая, тэхнічная літаратура, кнігі для работнікаў сельскай гаспадаркі... Кожную кнігу, што выдаюць беларускія паліграфісты, чакаюць у горадзе і ў вёсцы...

# ВІНШУЕМ!



УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

**Аб прысваенні тав. АНІКЕЙЧЫКУ А. А. ганаровага звання народнага мастака Беларускай ССР**

За заслугі ў развіцці беларускага савецкага выяўленчага мастацтва прысвоіць тав. **Анікейчыку** Анатолю Аляксандравічу ганаровае званне народнага мастака Беларускай ССР.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
Ф. СУРГАНАЎ.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
Л. ЧАГІНА.**

10 жніўня 1972 года,
гор. Мінск.

**Анікейчык Анатоль Аляксандравіч нарадзіўся ў 1932 годзе ў горадзе Нова-Барысаў Мінскай вобласці. Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут скончыў у 1959 годзе. У 1961 годзе быў прыняты кандыдатам, а ў 1962 пераведзены ў члены Саюза мастакоў СССР.**

**У рэспубліканскіх і ўсесаюзных мастацкіх выстаўках удзельнічаў скульптурнымі кампазіцыямі «1905 год», «Ленін і Горкі на Капры», «Данка», «Мантажнікі», «Максім Багдановіч», «Новая Куба», «Заклік» і інш. Ім былі створаны партрэты У. І. Леніна, Маякоўскага, Чайкоўскага, Мусаргскага, Бетховена, Фідэля Кастра.**

**А. Анікейчык прымаў актыўны ўдзел у стварэнні шэрагу твораў манументальнай пластыкі. Сярод іх — помнікі М. Гастэла, Ф. Дзяржынскаму, помнік Я. Купалу ў Мінску (сумесна з Л. Гуміле́ўскім і А. Заспіцкім).**

**У 1967 годзе А. Анікейчыку была прысуджана прэмія ЦК ЛКСМБ. У 1970 годзе мастак быў узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны».**

За поспехі ў развіцці выяўленчага мастацтва Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагароджаны скульптары **Гумілеўскі Леў Мікалаевіч і Засніцкі Андрэй Міхайлавіч.**

●

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за актыўны ўдзел у збудаванні мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагароджаны:

**Бембель Андрэй Ануфрыевіч** — загадчык кафедры скульптуры Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

**Бабыль Уладзімір Данілавіч** — скульптар.

**Занковіч Валянцін Паўлавіч** — студэнт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

**Казакоў Юрый Іванавіч** — асістэнт кафедры тэорыі і гісторыі архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута.

**Кібальнікаў Аляксандр Паўлавіч** — скульптар, народны мастак СССР.

**Кароль Уладзімір Адамавіч** — старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па справах будаўніцтва.

**Стаховіч Алег Аляксандравіч** — галоўны архітэктар праектаў Мінскага мастацка-вытворчага камбіната.

**Сысоеў Георгій Васільевіч** — кіраўнік майстэрні інстытута «Мінскпраект».

Граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагароджаны **Мазураў Віктар Мартынавіч** — кіраўнік групы архітэктурна-планіровачнай майстэрні Брэсцкага філіяла інстытута «Белдзяржпраект».

●

За паспяховую работу ў галіне тэатральнага мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў актрысу Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Беларускай ССР імя М. Горкага **Шах-Парон Алімпіяду Іванаўну** Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

●

За актыўную работу ў галіне літаратуры і мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка **Харкова Пятра Андрэевіча** Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

## ЮБІЛЕЮ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

Адбылося сумеснае пасяджэнне прэзідыума і партбюро Саюза пісьменнікаў БССР, на якім абмеркаваны і зацверджаны планы снежаньскіх юбілейных нумароў часопісаў «Полымя», «Беларусь», «Маладосць» і «Неман».

Галоўны рэдактар часопіса «Полымя» К. Ц. Кірэнка паведаміў, што ў часопісе адкрыта рубрыка «У сям'і адзінай, дружнай», пад якой друкуюцца пераклады лепшых твораў паэтаў і празаікаў братніх літаратур. Для юбілейнага нумара новыя творы напісалі народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, празаікі Алесь Савіцкі, Іван Навуменка і інш. «Паэму прызнання» заканчвае Рыгор Барадулін. На старонках часопіса будуць надрукаваны шматлікія публіцыстычныя матэрыялы: артыкулы, успаміны, дзённікі, дакументы.

Цікавым абяцае быць юбілейны нумар часопіса «Беларусь». Апрача літаратурных твораў на яго старонках знойдуць месца выступленні знатных людзей рэспублікі, нарысы і рэпартажы пра эканамічныя і культурныя сувязі з іншымі рэспублікамі, успаміны герояў вайны пра баявую садружнасць.

«У сузор'і братніх рэспублік» — пад такой рубрыкай будуць надрукаваны ў «Немане» апавяданні, вершы, артыкулы і дакументы, аб дружбе народаў СССР, іх узаемасувязях.

Слаўнай савецкай моладзі, яе працоўным поспехам, інтэрнацыянальнай дружбе будзе прысвечаны снежаньскі нумар «Маладосці». На яго старонках з артыкулам «Радзіме і партыі адданыя» выступіць сакратар ЦК ЛКСМБ Г. Анціпаў. Падрыхтаваны рэпартажы з новабудоўляў, прадпрыемстваў і калгасаў рэспублікі, падборкі твораў маладых паэтаў і празаікаў.

У абмеркаванні прынялі ўдзел пісьменнікі М. Аляксееў, В. Вітка, В. Зуёнак, М. Калачынскі, Л. Прокша, С. Шушкевіч.

## ПАРК З ДВУМА ФІЛІЯЛАМІ

Аршанскі парк імя Ленінскага камсамола — невялікі па тэрыторыі. Але яго любяць жыхары горада. У летнім тэатры наладжваюцца юбілейныя чытанні, прысвечаныя 50-годдзю ўтварэння СССР. Прачытаны ўжо лекцыі на тэмы: «БССР у сям'і братніх рэспублік свабодных», аб ленінскай нацыянальнай палітыцы і шэраг іншых.

Часта ў парку праводзяцца тэматычныя вечары. Запомнілася сустрэча моладзі з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны. Называўся гэты вечар «Людзі вялікага ратнага подзвігу». Цікава прайшло свята кнігі, у час якога можна было набыць кнігу любімага пісьменніка, удзельнічаць у літаратурнай віктарыне, паслухаць гутарку аб навінках, што выйшлі ў свет...

Масавыя гулянні працоўных горада работнікі парку арганізуюць у загараднай зоне — Андрэеўшчыне. Там ёсць невялічкая эстрада. Выступаюць самадзейныя артысты, канцэрты якіх карыстаюцца нязменным поспехам. А для дзяцей атракцыёны ўстаноўлены на беразе Дняпра. Зручна. Нагушкаўся на арэлях, асядлаў каруселі, а пасля можна і пакупацца...

50 год утварэння СССР

# БЕЛАРУСЬ



Гэта будзе фільм пра Савецкую Беларусь, роўную сярод роўных рэспублік свабодных. Пра яе працавіты, гасцінны і шчыры народ, які на працягу доўгіх стагоддзяў сваёй гісторыі шукаў шчасце-долю — казачную папараць-кветку. Пра цудоўную яву нашых дзён — непарушную дружбу братніх народаў Краіны Саветаў. Пра новыя гарады і вёскі рэспублікі, непаўторную прыгажосць прыроды.

Творчае аб'яднанне «Тэлефільм» Беларускага тэлебачання зараз працуе над каляровым дакументальным поўнаметражным фільмам «Савецкая Беларусь» («Калі цвіце папараць...»). Літаратурны сцэнарый А. Вялюгіна, рэжысёр Ч. Цяўлоўскі, аператары М. Бераў і В. Хайцін. Сотні кіламетраў праехалі і прайшлі па роднай зямлі аўтары гэтай стужкі, адбіраючы «ў кадр» самае цікавае, самае яркае. Пабывалі яны і за межамі рэспублікі, здымаючы эпізоды, якія адлюстроўваюць дружбу паміж народамі.

— Калі браць тэму фільма ўвогуле, — гаворыць рэжысёр Чэслаў Цяўлоўскі, — яна можа выглядаць празмерна раскіданай па аб'ектах: росквіт народнай гаспадаркі, культуры і навукі, сённяшні дзень Беларусі ў саюзе з братнімі рэспублікамі... Да таго ж сцэнарый прадугледжвае «перакідку» і ў мінулае, гістарычную перспектыву. Паэт і вопытны кінасцэнарыст Анатоль Вялюгін спалучыў у сцэнарыі і строгую дакументальнасць, і ёмістую метафарычнасць. Мы і спрабуем стварыць стужку дакументальную па характары, і — поўную паэзіі. Мы адыходзім ад храналагічнай паслядоўнасці, шукаем унутраныя сувязі паміж мантажнымі сказамі і асобнымі кадрамі.

Калі б мяне спыталі, да чаго мы імкнемся ў агульным каларыце, я сказаў бы — нас вабіць акварэль.

...30 снежня 1922 года. Гэта — чырвоны лісток календара: Беларусь добраахвотна ўваходзіць у склад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І пра гэта — першыя кадры фільма. Як пачатак песні... У яе, гэтую песню, уліваецца «Інтэрнацыянал», тэкст якога перакладае на родную мову Янка Купала. Знамянальны, сімвалічны факт! Ужо ў ім — паэзія, паэтычны камертон усёй нашай стужкі... Ці здолеем мовай кінамастацтва перадаць яе!?

## АЎТОБУС, ПОЎНЫ ПЕСЕНЬ

Па палявых дарогах імчыць аўтобус поўны песень і музыкі. Грае баян, чуваць басы гітары. За вокнамі мільгацяць дарагія сэрцу краявіды — блакітная стужка рачулкі, задуменны лес, палі прыбранай збажыны, плантацыі густой высокай кукурузы і сланечніку, якія сёлета ўрадзілі і вельмі падобныя на непраходныя джунглі.

А з адкрытых вокнаў ляціць мілагучная песня пра Радзіму, якая ў шчасці жыве, пра Яся, што касіў канюшыну, пра партызанку-Галіну. Песні змяняюцца прыпеўкамі, вясёлымі жартамі. Здаецца, што нехта ўключыў магнітафон, на стужцы якога запісаны цэлы канцэрт. Усю дарогу без спачыну спяваюць маладыя галасы.

Але вось і прыпынак. Стары калгасны сад, што непадалёку ад вёскі Тадуліна. Сюды на канцэрт прыехалі члены агітбрыгады «Неспакойныя сэрцы» Смалявіцкага раённага дома культуры.

Сапраўды неспакойныя сэрцы ў маладых энтузіястаў самадзейнага мастацтва. У кожнай гаспадарцы раёна выступалі яны з канцэртамі ў полі, на ўборцы ўраджаю. Каля 30 выездаў зрабілі сёлета артысты-аматары. І вязуць яны хлебаробам песні савецкіх кампазітараў, частушкі і народныя песні.

У перадавой гаспадарцы раёна — калгасе «Звязда» азімыя ўбраны даўно. Заканчваецца ўборка ячменю, аўсу. На чарзе — кукуруза, сланечнік, яны пойдуць на сілас. Ураджай збажыны сёлета нядрэнны — у сярэднім у калгасе ён складзе 25 цэнтнераў з гектара.

Калі прыехала агітбрыгада, адзін з лепшых камбайнераў калгаса Сяргей Едзіновіч «дажынаў» загон. Да яго падышоў старшыня калгаса Аляксандр Грынкевіч і брыгадзір Уладзімір Філіповіч. Кіраўнікі гаспадаркі віншуюць камбайнера з поспехамі. І намалоты неблагія ў камбайнера, і справу ён робіць выдатна. Яго машына працуе бездакорна. За дзень старанны механізатар зарабляе па 25 рублёў.

Пакуль артысты-аматары перапраналіся, ладзілі інструменты, кіраўнік агітбрыгады Анатоль Бутор гутарыць са старшынёй калгаса і галоўным аграномам. Запісваюцца імёны лепшых калгаснікаў, якія вызначыліся на ўборцы ўраджаю. Гэта — камбайнеры Аляксандр Бацяноўскі, Уладзімір Пашык і Іван Няхайчык, шафёры Аляксей Жалабковіч і Дзмітрый Няхайчык, трактарысты Міхаіл Бацяноўскі і Уладзімір Філіповіч; сушыльшчыкі збожжа Пётр Букаціч і Міхаіл Яскевіч, яго цёзка — брыгадзір трактарнай брыгады Міхаіл Сямёнавіч Яскевіч...

— То можа ўжо хопіць, — гаворыць Анатоль Бутор. — Так усіх калгаснікаў перапішам... Нам бы толькі некалькі імёнаў вашых лепшых людзей.

— А што зробіш, хлопча, калі на тых, лепшых, у нас сёлета добры ўраджай, — смяецца старшыня. Так што пішы. Ды не мінай нікога. Глядзі, дружа. Я б, здаецца, такую песню склаў пра іх, каб увесь свет славіў знатных людзей калгаса.

У засені старых яблынь паселі калгаснікі. Першым слова атрымаў загадчык аддзела прапаганды і агітацыі райкома партыі Іван Ігонін.



Добра танцуецца на свежым паветры. Ірына Далідовіч і Таня Дземідовіч выконваюць «Рускі танец».



Спяваюць удзельніцы агітбрыгады.

Фота Ул. КРУКА.

# САВЕЦКАЯ

...Пятрусь Броўка расказвае пра дружбу народаў, пра кроплю савецкага «цуда», у якой адлюстравана ўсё наша жыццё. Зліваюцца рэкі братняй еднасці народаў-суседзяў— беларусаў, латышоў і літоўцаў: на возеры Дрысвяты будуецца электрастанцыя «Дружба». І песня І. Лучанка на словы Э. Межэлайціса —

Ляцелі з трох рэчак
белыя гускі.
З літоўскай,
латышскай
і беларускай...

—эмацыянальна ўслаўляе гэтую дружбу.

Здымкі адбываліся і на Лукомльскай ДРЭС, на ўдарнай будоўлі пяцігодкі Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, у горадзе юнацтва — Салігорску, у рэчыцкіх здабытчыкаў нафты, рэкі якой зліваюцца ў нафтаправодзе «Дружба», на трактарным заводзе і іншых прадпрыемствах рэспублікі, дзе працуюць прадстаўнікі розных народаў СССР.

Братэрства, змацаванае крывёю... Ратнаму подзвігу народаў СССР у гады Вялікай Айчыннай вайны прысвечаны многія кадры і эпізоды фільма. Беларус Сяргей Грыцавец над Барселонай, Мадрыдам і Сарагосай збіў 30 фашысцкіх самалётаў. Капітан Арыес, іспанскі камуніст, савецкі лётчык збіў дваццаць пятага сцярвятніка ў небе Берліна...

Вядомы ўкраінскі паэт Платон Варанько расказвае, як у гады фашысцкай навалы беларуская маці, рызыкуючы жыццём, даглядала яго, каўпакоўца.

Брэсцкую крэпасць абаранялі байцы трыццаці трох нацыянальнасцей Савецкага Саюза. Здымкі адбываліся і ў горадзе над Бугам, у крэпасці-герої, і ў Сібіры, на далёкім Іртышы, дзе жыве былы абаронца крэпасці Яфім Іванавіч Кузняцоў...

Дзевятага мая 1972 года ў Расонах быў адкрыт мемарыял у гонар неўміручага подзвігу беларускіх партызан. Адзін з аўтараў гэтага мемарыяла — былы танкіст, пасля партызан, а сёння народны мастак Абхазіі Чола Кукуладзе, жыццё якога выратавалі жыхары беларускай вёскі Краснаполле, што ў Расонскім раёне. І гэтыя кадры зазняты кінадакументалістамі.

Як напамінак пра мужнасць і гераізм Савецкай Арміі-вызваліцельніцы Беларусі ад гітлераўскай навалы — стаіць на подступах да Мінска велічны Курган Славы, а Хатынскі мемарыял нагадвае пра тысячы ахвяр фашызму...

Тэма дружбы раскрываецца і ў эпізодах сустрэч жыхароў трох суседніх раёнаў — беларускага Брагіна, украінскіх Рэпак, рускага Злынкі, у супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе вучоных саюзных рэспублік, у будаўніцтве Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, дружбе будаўнікоў і трактаразаводцаў Волгаграда і Мінска...

Новая ява нашых дзён адлюстравана ў кадрах пра славутую вёску Верцялішкі, што на Гродзеншчыне, пра агранома-наватара Ніну Завадскую з Глыбоцкага раёна.

Здымаўся фільм і ў Маскве, на Краснай плошчы. Там, на пасту нумар 1, ля Маўзалея Леніна, стаіць на варце і сын беларускага народа Іван Аўчыннікаў. Наведаць яго прыехала маці з Чашніцкага раёна...

Удзельнікі гэтай здымачнай групы сустрэліся з воінамі-крамлёўцамі. За цікавае шэфскае выступленне, змястоўны расказ пра Беларусь яны атрымалі граматы.

Прэм'ера каляровага дакументальнага тэлевізійнага фільма «Савецкая Беларусь» адбудзецца ў канцы кастрычніка, калі ён будзе трансліравацца праз Маскву па Інтэрбачанні. Гэта будзе трэцяя серыя пятнаццацісерыйнага фільма «Саюз непарушны», прысвечанага кожнай братняй рэспубліцы Саюза ССР.

**Я. ДАНСКАЯ.**



У засені старога калгаснага саду наладзіла канцэрт агітбрыгада «Неспакойныя сэрцы».

Ён расказаў, з якім уздымам працуюць савецкія людзі, ідучы насустрач вялікаму святу дружбы народаў — 50-годдзю СССР, заклікаў калгаснікаў без страт завяршыць уборку ўраджаю другога года пяцігодкі.

На імправізаваную сцэну — невялічкую паляну выйшлі артысты. У іх руках заклікі «Выканаем пяцігодку датэрмінова!», «Убяром ураджай юбілейнага года без страт!» Вядучыя — Леанід Ткачэнка, Георгій Кудзін, Мікалай Кошалеў, Іра Яцкевіч называюць імёны лепшых людзей калгаса. Ім агітбрыгада «Неспакойныя сэрцы» і прысвячае свой канцэрт.

Душа агітбрыгады — баяніст Іван Гоцман. Дзе баян—там заўсёды весялосць — песні, танцы. Зайграе баяніст і адразу пачынаюць спяваць Тамара Сірота, Вольга Засорына, Валя Гоцман і іншыя. І ў гэтым канцэрце дзяўчаты праспявалі некалькі песень савецкіх кампазітараў.

Разам з агітбрыгадай выязджае і эстрадны ансамбль. Салісты Уладзімір Кавалёў і Валя Гоцман спявалі ў суправаджэнні ансамбля. Далёка нясецца іх песня над калгаснымі палеткамі.

Гарачыя воплескі выклікалі сатырычныя сцэнкі: «Калгасны музей» і «Адысей-Елісей», у якіх высмейваюцца абібокі, гультаі, п'яніцы, летуны, звышмодніцы, што цураюцца працы, а жыць хочуць прывольна.

Непрыкметна праляцела гадзіна. Канцэрт закончаны. Механізатары дзякуюць артыстам, запрашаюць часцей прыязджаць у іх калгас.

— Праз год мы пабудуем палац культуры,— гаворыць на развітанне старшыня калгаса А. Грынкевіч.— Вось тады, калі ласка, прыязджайце да нас на гастролі — хоць на цэлы тыдзень. Будзем слухаць вас і вучыцца ў вас. А пакуль што не крыўдуйце, што выступаць вам давялося пад адкрытым небам. Ды зрэшты можа гэта і нядрэнна: сонейка вас абагрэла, ветрык абвеяў, глядзіш і настрой стаў лепшы.

Агітбрыгада «Неспакойныя сэрцы» працуе два гады. Гэта яе другая праграма. Сёлета самадзейныя артысты ўдзельнічалі ў другім абласным аглядзе-конкурсе агітбрыгад Міншчыны, дзе заваявалі прызавое месца. Тады праграма выконвалася строга па сцэнарыі. Яна была лаканічнай, вострай, змястоўнай.

Але вось мінуў час, і пры ўсім добрым, што ёсць у агітбрыгадзе, зараз у яе выступленні адчуваецца ўсё ж пэўная расхістанасць. З'явілася многа пабочнага, не заўсёды апраўданага. Відаць, усё ж варта пазбягаць лёгкіх жартаў, якія не ў рэчышчы праграмы, зніжаюць яе мастацкую вартасць. Неабходна таксама ўзбагаціць выступленне брыгады папулярнымі песнямі беларускіх кампазітараў, песнямі народаў СССР. Патрэбны частушкі пра лепшых людзей калгаснай вёскі і вясёлыя сатырычныя куплеты.

Словам, работы наперадзе многа. Будзем спадзявацца, што малады калектыў энтузіястаў самадзейнага мастацтва будзе і далей несці працаўнікам вёскі радасны, бадзёры настрой, абуджаць у іх сэрцах лепшыя пачуцці.

**Я. КАЛЯДА.**



У народзе бытуе добры выраз: мой сябар — твой сябар. Таму аднойчы старшыня калгаса імя Леніна Васіль Яфімавіч Сцяпанаў (на здымку ў цэнтры) завітаў да старшыні калгаса імя Ільіча Аляксандра Якаўлевіча Пеўзнера (крайні справа) ўжо не адзін. З ім прыехаў дырэктар смаленскага прыгараднага саўгаса «Дубровінка» Пётр Іванавіч Баравічоў (крайні злева).

Фота Э. ВЯРЖБІЦКАГА.

# АСЦЁР— РАКА ДРУЖБЫ

НА САМАЙ усходняй ускраіне нашай рэспублікі, там, дзе рэчка Асцёр павольна нясе свае крыштальныя воды, раскінуліся абшары з ураджайнымі палямі і духмянымі лугамі калгаса імя Ільіча Клімавіцкага раёна.

Тут праходзіць мяжа паміж дзвюма братнімі рэспублікамі — Расіяй і Беларуссю. Але не ведаюць воды Асцёра гэтай мяжы. Не бачаць яе і мясцовыя жыхары — хлебаробы калгасаў імя Ільіча Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці і імя Леніна Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці. Жывуць яны ў згодзе і дружбе. Жывуць так, як могуць жыць родныя браты і сёстры: разам працуюць, разам адпачываюць і весяляцца, заўсёды адзін аднаму дапамагаюць.

Старшыню калгаса імя Ільіча Аляксандра Ільіча Пеўзнера мы сустрэлі заклапочаным.

— Разумееце, суседзі адстаюць са жнівом і чакаюць нашай тэрміновай дапамогі. Заўтра мы накіроўваем туды тры камбайны з вадзіцелямі.

Так павялося ўжо, што калгас імя Ільіча дапамагае свайму рускаму суседу трактарамі і камбайнамі, аўтатранспартам, гатунковым збожжам, у сваю чаргу той — запаснымі часткамі для сельгасмашын, лёнацерабілкамі, аміячнай вадой, гатунковай бульбай, племяннoй жывёлай і г. д. Механізатары калгаса імя Ільіча Васіль Ганжажараў, Міхаіл Кургузаў, Васіль Варанцоў, Мікалай Брыкаў і Аляксей Брыкаў, шафёры Барыс Цімашэнка, Іван Макаркоў, Іван Куцікаў і Мікалай Баранаў не раз пабывалі са сваімі машынамі на палях свайго рускага суседа і ў час веснавой сяўбы і ў час уборачных работ. Рускія ж сябры прыязджаюць сюды на церабленне лёну са сваімі першакласнымі машынамі.

Паміж сябрамі ўстанавіліся і цесныя культурныя сувязі. З году ў год абменьваюцца вопытам загадчыца Старадзедзінскай сельскай бібліятэкі Антаніна Іванаўна Пеўзнер (калгас імя Ільіча) з загадчыцай Рускаўскай сельскай бібліятэкі Тамарай Паўлаўнай Краўцовай (калгас імя Леніна). Сёлета яны правялі тэматычныя вечары пад агульнай назвай «Русь, што з'яднала народы», на якіх прысутнічалі працаўнікі абедзвюх гаспадарак.

Дарэчы, у беларускай бібліятэцы бяруць кнігі калгаснікі рускай вёскі Караблеў. І, наадварот, беларускія аматары кнігі карыстаюцца паслугамі рускіх бібліятэк.

Не менш цесная сувязь існуе і паміж суседнімі школамі. Старадзедзінскую васьмігадовую школу часта наведваюць настаўнікі і вучні Рускаўскай сярэдняй, Паліцкаўскай і Караблеўскай васьмігадовых школ Шумяцкага раёна. Тое ж самае робіць і настаўніцка-вучнёўскі калектыў Старадзедзінскай васьмігодкі. У гонар шматгадовай шчырай дружбы сёлета васьмікласнікі гэтай школы запрасілі сваіх сяброў на выпускны вечар.

Цікава і тое, што дзеці некаторых беларускіх вёсак наведваюць рускія школы. І ў той жа час з рускіх вёсак Смаленшчыны ідуць дзеці ў беларускія школы.

Хлопцы беларускіх вёсак Стары Дзедзін, Новы Дзедзін, Роськаў і Куляшоўка бралі сабе ў жонкі дзяўчат з рускіх вёсак Паліцкае, Рускае, Караблеў, Цітаўка, Зімоніна. А многія хлопцы з гэтых вёсак пажаніліся на беларускіх дзяўчатах.

Не толькі працаваць, але і адпачываць любяць разам хлебаробы дзвюх суседніх гаспадарак. У зімовы час яны, асабліва моладзь, весяляцца разам у калгасных клубах, а летам — на маляўнічых берагах крыштальнага Асцёра. Музыка і песні — рускія і беларускія разліваюцца па рачной роўнядзі і разам з чыстымі водамі нясуцца да старажытнага Крычава, дзе Асцёр уліваецца ў шырокі Сож.

Гэты кароценькі нарыс мне хочацца закончыць вершаванымі радкамі, якія нарадзіліся там, на берагах Асцёра.

**Дзве родных сястры —**
**Беларусь і Расія,**
**Дзве вольныя птушкі**
**З вялікай сям'і.**
**Іх вечнае дружбы**
**Ніхто не асіліць,**
**Ніхто не спаганіць**
**Свяшчэннай зямлі.**

**Здаўна іх яднаюць**
**Рачулкі і рэкі —**
**Дняпро, і Дзвіна,**
**І Асцёр-прыгажун:**
**Ад году да году,**
**ад веку да веку**
**злучаюць народы,**
**сціраюць мяжу.**

**У згодзе жывуць,**
**Як сябры і суседзі,**
**Як дружныя дзеці**
**Шчаслівых бацькоў, —**
**Паліцкае, Рускае,**
**Роськаў і Дзедзін**
**Без панскай апекі,**
**Без прыкрых акоў.**

**Ад стольнага Мінска**
**Да вежаў Смаленска,**
**Ад Клімавіч вольных**
**Да ціхіх Шумяч**
**Хвалюецца жыта,**
**Квітнеюць пралескі**
**І, быццам у казцы,**
**Дубровы шумяць.**

**І ўсё гэта наша —**
**Без межаў і варты,**
**Без жорсткай варожасці**
**Даўніх часоў...**
**Працоўныя будні,**
**Вяселле і жарты —**
**Пад песні камбайнаў**
**І гоман лясоў.**

**Павел ПРУДНІКАЎ.**

ДЫСКУСІІ

На парадку дня:

ПРАБЛЕМЫ ПАЭЗІІ

Аляксей ЗАРЫЦКІ

# НАША ТУТ

## НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ У ПАРАДКУ ДЫСКУСІІ

У СВАІМ АРТЫКУЛЕ «Ісці ўпоравень з векам», надрукаваным у газеце «Літаратура і мастацтва» 23 чэрвеня, М. Барсток занадта адвольна абышлася з адным маім выказваннем пра паэзію. М. Барсток піша:

«Недаацэнка тэорыі, мысліцельнага элементу бачна ў творах і выказваннях некаторых старэйшых нашых паэтаў. Вось, напрыклад, што піша А. Зарыцкі ў аўтабіяграфіі (зборнік «Пяцьдзесят чатыры дарогі»):

«Для мяне паэты заўсёды дзяліліся, груба кажучы, на дзве катэгорыі.

Да першай належаць тыя, творчасць якіх абумоўлена непасрэдна самім жыццём, якія нясуць у паэзію жывое народнае слова. Да другой катэгорыі належаць тыя, якія сваё натхненне чэрпаюць у асноўным з прачытаных кніг і карыстаюцца гатовай кніжнай мовай. Творы іх заўсёды напоўнены літаратурнымі рэмінісцэнцыямі. Такія паэты часта добра валодаюць формай, але калі разабрацца па сутнасці, то святло іхняе — не іхняе; а чужое».

«Тут, — піша далей М. Барсток, — не ўсё дакладна... У наш час нельга стаць сапраўдным паэтам, не маючы пэўнай кніжнай культуры (бо яе ў той ці іншай ступені маюць усе чытачы), высокага ўзроўню адукаванасці, адкрышталізаванай пры дапамозе філасофскай і эстэтычнай думкі, свайго ўласнага погляду на свет, які таксама здабываецца не толькі адной практыкай. А як жа быць з такімі пісьменнікамі, як Б. Брэхт і Леся Украінка? У іх творчасці сустракаюцца тыя самыя «кніжныя» сюжэты і вобразы, праз якія гэтыя аўтары ўваходзяць у шырокі свет сусветнай літаратуры, распрацоўваючы гэтыя сюжэты з улікам свайго нацыянальнага матэрыялу, сучаснага ім узроўню грамадскай думкі, ідучы ўпоравень са сваім векам».

У працытаваных вышэй словах анідзе не адмаўляецца ні неабходнасць мець для паэта пэўны ўзровень кніжнай культуры, ні высокі ўзровень адукаванасці, адкрышталізаванай пры дапамозе філасофскай і эстэтычнай думкі, ні свой уласны погляд на свет, здабыты не толькі адной практыкай, як гэта настойліва падкрэсліваецца Барсток. У сваім выказванні я адмоўна паставіўся да тых пісьменнікаў, якія сваё натхненне чэрпаюць у асноўным з прачытаных кніг. І вядома, што прадукцыя такіх літаратараў паводле сваёй якасці не можа належаць да першай катэгорыі. Такія пісьменнікі здаўна служылі і служаць мішэнямі для сатырычных стрэл. У сусветнавядомым рамане французскага пісьменніка Алена Лесажа «Кульгавы чорт», напісаным каля 270 год назад, ёсць такая мясціна. Чорт, на спіне якога ўладкаваўся адзін з герояў твора, пралятае ўночы праз горад і, выкарыстоўваючы сваю д'ябальскую ўсемагутнасць, робіць так, што яго пасажыр можа бачыць тое, што робіцца за мурамі дамоў. Чорт суправаджае гэты паказ пэўнымі каментарыямі. Ён кажа, што вунь там, за той каменнай сцяной відзён адзін пісьменнік. Бачыш, ён працуе за сваім пісьмовым сталом. Гэты пісьменнік прачытаў не адну сотню чужых кніжак і цяпер робіць з іх адну сваю.

У рамане Лесажа, вядома, усё гіпербалізавана, але ж гэта мастацкая гіпербала грунтуецца на жыццёвай праўдзе. І я ў сваім кароткім выказванні толькі засцерагаў супраць эпігонства ў розных яго праявах, супраць чэрпання творчага матэрыялу, у асноўным, — я падкрэсліваю гэта, у асноўным, — з кніг. Зразумела, што карыстацца ў патрэбнай меры кніжнымі вобразамі і матэрыялам не толькі можна, але і неабходна. Ну, а калі мы ўсе пачнем «творча» карыстацца кнігамі сваіх сучаснікаў і папярэднікаў і запазычаныя адтуль вобразы і матывы зробім асноўным матэрыялам для сваіх твораў, дык мы прыпадобімся жыхарам той анекдатычнай краіны, якія жылі з таго, што пазычалі адзін у аднаго.

Што датычыць Лесі Украінкі, то яна сапраўды выкарыстоўвала ў сваіх творах і вобразы антычнай міфалогіі, і легенды заходнееўрапейскай даўніны, і нават навуковыя працы, напрыклад, такія рэдкасныя, як кніга нямецкага егіптолага А. Відэмана «Займальная літаратура старажытнага Егіпта». Знаёмства з нямецкімі падрадкоўнікамі старажытных егіпецкіх песень, змешчаных у гэтай кнізе, навяло паэтэсу на думку стварыць нізку выдатных вершаў «Вясна ў Егіпце». Але ж не гэта вызначае творчасць вялікай украінскай паэтэсы. Першаснова яе лепшых твораў — гэта матэрыял, узяты непасрэдна з жыцця. Не пераказчыкам яна была старадаўніх легендаў, паданняў, казак і міфаў, а перш за ўсё паэтам-рэвалюцыянерам, змагаром за волю і долю свайго народа, за вызваленне з-пад ярма эксплуатацыі ўсяго працоўнага чалавецтва, пра гэта гавораць яе выдатныя вершы. Прыгадаем хоць бы «Досвітні огні», дзе яна вітае агні на дасвецці, запаленыя рабочымі.

І гэтым рабочым людзям Леся Украінка несла агнявое слова рэвалюцыі, якую яна імкнулася наблізіць усімі даступнымі ёй сродкамі, і не толькі сваімі творамі, але і перакладаючы з гэтай мэтай на ўкраінскую мову «Маніфест камуністычнай партыі» і іншую марксісцкую літаратуру. Нават у тых выпадках, калі паэтэса выкарыстоўвала культурныя скарбы мінулых эпох, яна заўсёды зыходзіла з патрэб сучаснасці і асвяжала і напаўняла іх жывой вадой з крыніц свайго сэрца і народнага жыцця. З глыбіняў яго яна здабывала асноўны матэрыял для сваіх твораў.

Побач з Лесяй Украінкай наш крытык паставіла Б. Брэхта, мусіць, таму, што, паводле яе думкі, у іх творчасці сустракаюцца тыя самыя «кніжныя сюжэты і вобразы, праз якія гэтыя аўтары ўваходзяць у шырокі свет сусветнай літаратуры...» і г. д.

І ні Леся Украінка, і ні тым больш Б. Брэхт не ўваходзяць у шырокі свет сусветнай літаратуры вышэй прапанаваным спосабам — праз тыя самыя «кніжныя» сюжэты і вобразы...» Шматлікія прыхільнікі Брэхта-драматурга, якім даводзілася бываць у Берліне, ведаюць, як цяжка дастаць білет у брэхтаўскі тэатр—славуты «Берлінер ансамбль». З таго дня, як пайшоў з жыцця Бертольд Брэхт, адзін з буйнейшых пісьменнікаў эпохі сацыялізму, драматург з сусветным імем, выдатны лірык, апавядальнік, тэарэтык і рэжысёр, прамінула ўжо 16 год, а колькасць тых, хто прагне паглядзець яго п'есы, усё павялічваецца і павялічваецца. Гэта незвычайная прывабнасць п'ес Брэхта перад усім заключаецца ў тым, што ён, карыстаючыся метадам сацыялістычнага рэалізму, з незвычайнай мастацкай сілай, вельмі своеасабліва, па-партыйнаму сумленна, бескампрамісна і востра ўвасобіў у паўнакроўных мастацкіх вобразах матэрыял, здабыты ім з самой гушчы жыцця Германіі пяці апошніх дзесяцігоддзяў. З гушчы жыцця краіны, якая раздзіралася (і раздзіраецца і сёння ў ФРГ) найвастрэйшымі супярэчнасцямі паміж працоўнымі і капіталістамі, якая ў выніку трагічнага гістарычнага развіцця сталася крыніцай пошаснай атруты нацызму і віноўніцай дзвюх сусветных войнаў. Так, з жыцця, непасрэдна з бурлівага жыцця здабываў перш за ўсё матэрыял для сваіх твораў Брэхт. Вялікія мэты камунізму і грандыёзныя класавыя бітвы натхнялі яго. І ў полымі гэтых бітваў нарадзілася яго палымянае слова. Здабываючы свой творчы матэрыял з жыцця, Брэхт не так ужо часта карыстаўся кніжнымі сюжэтамі і вобразамі. Аб гэтым жа так пераканаўча сведчаць яго лепшыя п'есы, называць якіх няма патрэбы. І нават, калі ён у сваіх пошуках звяртаўся і да літаратурных крыніц, дык заўсёды па-свойму пераасэнсоўваў узятае і напаўняў яго патрэбным жыццёвым матэрыялам.

Не магу я аніяк пагадзіцца і з такім сцвярджэннем М. Барсток: «Не шырыню, а вузкасць нашай паэзіі бачу ў тым, што яна рэдка звяртаецца да вобразаў, якія замацаваліся ў сусветнай літаратуры, такіх, як Праметэй, Фаўст, Адам, да антычных і біблейскіх міфаў». Ні Фаўста, ні Праметэя аніяк нельга назваць «вобразамі, якія замацаваліся ў сусветнай літаратуры». Фаўст і Праметэй ніколі нідзе не замацоўваліся і не замацоўваюцца... Гэта не каменныя статуі старадаўніх напаўзабытых багоў і герояў і не застылыя твары святых на пакрытых пылам іконах. Гэта вобразы, створаныя народам, яны вечна жывуць у памяці пакаленняў, вечна развіваюцца, вечна надзяляюцца новымі рысамі. Гётаўскі Праметэй — гэта ўжо не тое, што яго антычны цёзка. Яны, вядома, браты і па духу бунтарскаму і па неадольнай мары чалавечай да сапраўднай волі і долі. Але гётаўскі Праметэй паспеў узбагаціць сябе і мудрасцю і ідэаламі пазнейшых часоў. Хіба не запаветныя думкі самога маладога Гётэ выказвае ягоны Праметэй?! Хіба не першачарговымі патрэбамі эпохі «Буры і націску» абумоўлена яго стварэнне?! Хіба не створаны ён з плоці, крыві і духу гэтай эпохі?!

Выдатны нямецкі паэт І. Бехер, характарызуючы творчасць Гётэ, сказаў, што верш «Праметэй» здаецца, напісаны паэтам пра сябе самога.

І Леся Украінка, згадваючы Праметэя, выкарыстоўвае гэта для таго, каб перш за ўсё глыбей падаць свой жыццёвы матэрыял, ярчэй выказаць свае думы, выразней абмаляваць сваіх герояў. Дастаткова пазнаёміцца з яе драматычнымі паэмамі «Асенняя казка» і «Катакомбы», каб пераканацца ў гэтым. У першай вязень-рыцар звяртаецца з сваёй цямніцы да Праметэя з прачулымі словамі. І як гэты зварот вязня з сярэдневяковай цямніцы і яго думкі і мары, звернутыя да Праметэя, нагадваюць думкі і мары Лесі Украінкі, якая была вязнем у вялікай цямніцы — заняволенай царом Украіны — і таксама, як і Праметэй, мужна кідала выклік тыранам. Маналог Неафіта-раба ў «Катакомбах», дзе аддаецца хвала Праметэю, таксама гучыць, як паўнагучнае паэтычнае рэха думак самой Лесі Украінкі.

А вось у савецкага паэта Андрэя Малышкі ў яго паэме, якая так і называецца «Праметэй», подзвіг гэтага антычнага тытана як бы знаходзіць свой працяг у наш час. Малады савецкі воін, родам са Смаленшчыны, як колішні Праметэй, ідзе на лютыя мукі, каб дапамагчы людзям — ён ратоўвае ад пагібелі жыхароў украінскага сяла.

Ідэя самаахвярнасці ў імя людскога шчасця ўвасабляецца ў гэтай паэме ў вобразе маладога савецкага салдата з такой мастацкай пераканаўчасцю, што мы забываем пра каласальную адлегласць у тысячагоддзях і эпохах, якая пралягла паміж ім і міфічным героем. Але тут ужо кожнаму відаць, што першаасновай гэтага твора непасрэдна з'яўляецца жыццёвы матэрыял — гераічная рэчаіснасць Вялікай Айчыннай вайны.

Ну, а Фаўст? Фаўст таксама не застылы вобраз, які замацаваўся ў сусветнай літаратуры, не адчэканеная раз і назаўсёды манета, якая пера-

---

# ПУСТЫШКІ З ДЫДАКТЫЧНЫМ ДАВЕСКАМ

Радзівальт ЛІТВІНАЎ

НІХТО НЕ СТАНЕ аспрэчваць, што сучасная беларуская паэзія для дзяцей, развіваючы лепшыя традыцыі вуснай творчасці свайго народа, традыцыі Багдановіча і Купалы, Коласа і Бядулі, дасягнула значнага росквіту, пашырыла сваю жанравую і тэматычную арбіту. Сведчанне гэтага — многія творы паэтаў розных пакаленняў: М. Танка, В. Віткі, У. Дубоўкі, С. Шушкевіча, Э. Агняцвет, М. Калачынскага, Р. Барадуліна, А. Вольскага, Е. Лось, П. Макаля, Н. Гілевіча, В. Зуёнка і інш.

Разам з тым у сучаснай паэзіі для дзяцей, на жаль, яшчэ нямала вершаў выпадковых, слабых і ў мастацкіх, і ў ідэйных адносінах. Паэты не заўсёды ўмеюць размаўляць з дзецьмі шчыра і сардэчна. І адна з прычын гэтага, мне думаецца, абстрактнае маралізаванне, назойлівы дыдактызм, які скоўвае жывую думку і ініцыятыву дзіцяці. На старонках дзіцячых перыядычных выданняў і кніг даволі часта натыкаешся на вершы, замест якіх загадзя вядомы, бо ў іх — стандартнасць пачуццяў і перажыванняў, стандартнасць сітуацый. Героі шэрагу вершаў С. Пацёмкіна, С. Кацубы, М. Чарняўскага, Я. Крупенькі, У. Бабкова (спіс можна прадоўжыць) нейкія нежывыя, яны сумна капіруюць дарослых. Нават у творчасці такіх вопытных і здольных дзіцячых паэтаў, як М. Хведаровіч, А. Дзеружынскі, Д. Бічэль-Загнетава, І. Муравейка, В. Вярба, П. Прануза і іншых не-не ды і сустракаюцца схематычныя і рамесныя, пазбаўленыя непасрэднасці, пранізаныя наіўнай дыдактыкай і дарослым «прытворствам» вершы.

Каб не быць галаслоўным, прывяду некалькі прыкладаў. Вось героі верша В. Вярбы «Надзейка»... Цяжка паверыць недзіцячаму разважанню маленькай дзяўчынкі. Зіма-чарадзейка кліча яе на каток, але Надзейка не збіраецца ісці гуляць, таму што выконвае заданне па мове, таму што:

— Ніхто не лянуецца

Ў нашым звяне —
Усе спадзяюцца
Сябры на мяне.

Мы не супраць называць добрае—добрым, а дрэннае — дрэнным. Мы толькі не хочам бачыць нашых дзяцей «молодыми старичками», «благоразумными резонёрами» (Бялінскі), мы хочам уберагчы іх ад халоднарытарычных, шэрых вершаў, у якіх мараль знішчае паэзію.

Лабавыя павучанні, хадавыя штампы натацый адчуваюцца і ў асобных творах цікавай дзіцячай паэтэсы Д. Бічэль-Загнетавай:

Да паслушнага сына
Прыкацілася машына.
Стала,
Запіпікала,
Праехала, паклікала.
(«Машына»).

Або

Экскаватар добры быў.
Ён паслушнікаў любіў.
(«Вавёрачка і экскаватар»).

Сухавата вырашаецца тэма калектыўнай працы ў вершы М. Хведаровіча «На суботніку». Задаволены суботнікам, герой-хлапчук усклікае:

Колькі дрэў мы пасадзілі,
А зямліцы нанасілі!
Працаваў ударна клас.
Пахваліў дырэктар нас.

Наводзяць на сум шаблонныя, напісаныя бясстрасна і пратакольна «канцоўкі» твораў — так званыя дыдактычныя давескі. У іх плоскасна і спрошчана даюцца «жыццёвыя парады»— натацыі: рабі гэтак, а не так. У выніку першапачатковая сардэчная размова аўтара з дзецьмі знікае, завяршаецца ненатуральна.

Гэта «хвароба» ўласціва творам таго ж М. Хведаровіча («Паслухмяны сынок», «У завею», «Вазьмі мяне, тата...»), і В. Вярбы («Я стану капітанам», «Я і мае сябры»), Д. Бічэль-Загнетавай («Гусакі», «Верабейка»), С. Кацубы («Мы шчаслівыя дзеці», «Мая яблынька») і многіх іншых паэтаў.

Паслухаем, напрыклад, як гучыць канцоўка цікавага па задуме верша М. Хведаровіча «Пра Янку і гулянку». Хлопчык прагуляў увесь дзень і не падрыхтаваў урокаў, а таму назаўтра прытварыўся хворым. І тут жа аўтар паспешліва канстатуе хуткае перавыхаванне хлопчыка, дае педагагічныя прапісы і парады:

# І НАША СЁННЯ

ходзіць з рук у рукі. Праўда, Гётэ пры стварэнні сваёй геніяльнай паэмы «Фаўст» абапіраўся ў пэўнай ступені на сярэдневяковую народную легенду пра Фаўста. Але паміж народнай кнігай пра Фаўста і паэмай Гётэ велізарная розніца і ў дачыненні да самой тканіны гэтых твораў і да філасофскай глыбіні асэнсавання рэчаіснасці. У самім вобразе гётаўскага Фаўста шмат аўтабіяграфічных рыс. Гётаўскія пошукі сапраўдных ведаў, сапраўднай ісціны знайшлі сваё адлюстраванне ў яго Фаўсце. А. Грэтхен, тая самая Грэтхен, у адносінах якой з Фаўстам Гётэ паказаў сувязь творчых дзеячоў з народам, мела нават свой жывы прататып. Я ўжо не кажу пра ідэйна-філасофскую аснову твора, пранікнутага духам Вялікай Французскай рэвалюцыі, якая сфармавала канчаткова Гётэ як мастака і мысліцеля. Так што і тут аналагічная карціна—першаасновай Фаўста Гётэ з'яўляецца жыццё яго эпохі ў самым шырокім і глыбокім значэнні гэтага слова.

Адзін з буйнейшых аўстрыйскіх паэтаў мінулага стагоддзя Нікалаус Ленаў таксама напісаў паэму «Фаўст». Але гэта ўжо зусім іншы твор, з іншым жыццёвым напаўненнем і філасофскім асэнсаваннем, паэма агорнута глыбокім песімізмам; яна завяршаецца перамогай адмоўнага героя Мефістофеля, а не Фаўста.

Усе гэтыя прыклады я прыводзіў дзеля таго, каб пацвердзіць старую ісціну, што ў аснове кожнага сапраўднага твора перш за ўсё ляжыць непасрэдна жыццёвы матэрыял. Мае словы не з'яўляюцца навіной. Пра гэта ёсць выказванні А. Твардоўскага і многіх-многіх іншых пісьменнікаў. І Леў Талстой сцвярджаў, што твор, які ўзнік пад уплывам чытання іншых твораў, не можа мець сапраўднай вартасці, што першакрыніцай паўнакроўнага мастацкага твора, яго вытокам павінна быць жыццё. Так яно, вядома, і ёсць.

А такі паэт з сусветным імем як Уітмен, ды і многія іншыя, нават выступаў супраць ужывання застарэлых кніжных і міфалагічных вобразаў. Прыгадаем хаця б яго славуты верш «З «Песні пра выстаўку», пераклад К. Чукоўскага.

**Муза, беги из Эллады, покинь Ионию,**
**Сказки о Трое, об Ахилловым гневе забудь, о**
**скитаниях Одиссея, Энея.**
**К скалам твоего снегового Парнаса дощечку**
**прибей: «За отъездом сдается в наем»,**
**И такое ж повесь объявление в Сионе, на**
**Яффских воротах и на горе Мориа...**
**. . . . . . . . . . . . . .**
**Муза! Я приношу тебе наше здесь и наше**
**сегодня.**
**Пар, керосин и газ, экстренные поезда,**
**великие пути сообщения.**
**Триумфы нынешних дней: нежный кабель**
**Атлантики,**
**И тихоокеанский экспресс, и Суэцкий канал,**
**И туннель Мон-Сени, и Готардский, и**
**Гузекский туннель,**
**И Бруклинский мост.**
**Всю землю тебе приношу, как клубок,**
**Обмотанный рельсами и пароходными тропами,**
**избороздившими каждое море,**
**Наш вертящийся шар приношу...**

Зразумела, што пагадзіцца поўнасцю з гэтымі радкамі Уітмена нельга: гэта ўжо іншая крайнасць, дзе адчуваецца моцны ўплыў амерыканскай прагматычнай філасофіі. Але гэтыя радкі вабяць магутным імкненнем паэта ўславіць перш за ўсё наша тут і наша сёння. Нельга забываць і пра тое, што верш напісаны звыш ста год таму назад, калі шматлікія эстэты-эпігоны, дэманструючы сваю адарванасць ад сучаснага ім жыцця і няўменне самастойна мысліць, напакоўвалі свае вершы міфалагічнымі і біблейскімі вобразамі. Вялікі паэт-наватар Уітмен не мог, зразумела, абысці гэта маўчаннем.

Прачытаўшы дакоры М. Барсток у мой адрас і-ў адрас яшчэ некаторых старых паэтаў наконт недаацэнкі тэорыі і мысліцельнага элементу, я спачатку быў пакрыўдзіўся і засмуціўся, але пасля, убачыўшы, у якой пачэснай кампаніі апынуўся, трохі павесялеў.

Аніяк нельга пагадзіцца і з такім сцвярджэннем М. Барсток:

«Зварот да падзей і фактаў сусветнай гісторыі, да біяграфіі вядомых грамадскіх і культурных дзеячоў таксама сведчыць аб шырыні кругагляду аўтара, яго ўменні мысліць эпахальна, глядзець на свет цэласна».

Сам факт такога звароту ніколі не сведчыў і не сведчыць аб шырыні кругагляду аўтара, яго ўменні мысліць эпахальна і глядзець на свет цэласна. Можна пералічыць сотні і тысячы падобных аўтараў, якія звярталіся і да біблii, і да міфалогіі, і да гісторыі і філасофіі, і да біяграфій самых выдатных людзей усіх эпох і народаў, але творы гэтых аўтараў ужо даўно канулі ў забыццё. Усё залежыць ад таго, наколькі такія звароты адпавядаюць самым пільным патрабаваннем часу, у якіх жыў або жыве аўтар і ад асобы аўтара, ад яго таленту. Адзін паэт крычыць, надрываючыся, і пра глыбіні космасу і прыгадвае ўсіх славутасцяў ад Адама да нашых дзён, але яго ніхто не хоча слухаць, бо ён не самастойны майстра, а пасрэдны эпігон, які хоча прыкрыць сваю бяздарнасць узятай напракат гатовай мудрасцю. А другі паэт зусім нягучна, нібы сам сабе, гаворыць пра горныя вяршыні, ахутаныя цішынёй альбо пра самотны парус, а яго чуе і слухае свет, бо гэты пясняр вялікі талент, геній, і ён здолеў простымі словамі без усялякіх вышэйпамянёных зваротаў перадаць біццё пульсу свайго часу.

З усяго, што было тут сказана, напрошваюцца наступныя вывады. Справа літаратурнага поспеху зусім не заключаецца ў тым, каб старонкі твораў стракацелі імёнамі антычных і біблейскіх герояў, каб яны былі звернуты да вобразаў, замацаваных у сусветнай літаратуры. Агульнавядома з гісторыі сусветнай літаратуры, што сотні і тысячы паэтаў так і засталіся пасрэднымі эпігонамі, нягледзячы на тое, што няспынна звярталіся да гэтых вобразаў, да біяграфіі славутых людзей, да вялікіх гістарычных падзей.

Ёсць прастата высокая, прастата велічная. Яна, зразумела, не мае нічога агульнага з прастатой вершаў некаторых нашых паэтаў, якія за роснымі былінкамі і палявымі сцяжынкамі свету белага не бачаць. Гэта фактычна той жа самы прымітыў, тое ж самае эпігонства і літаратуршчына, што і недарэчнае казыранне літаратурнымі рэмінісцэнцыямі, толькі, калі можна так сказаць, эпігонства і літаратуршчына наадварот.

Па-другое. Гэта геніяльная велічная прастата, спалучаная з поўнай натуральнасцю, уласцівай найвыдатнейшым творам, па ўсёй сваёй сутнасці з'ява вельмі складаная. У першым выпадку гаворка ішла пра эпігонаў, якія з дапамогай рэмінісцэнцыі вонкава ўскладняюць прымітывізм сваіх думак, надаюць ім уяўна глыбакадумны выгляд. А тут мы маем справу з сапраўднай складанасцю, якая выказвае сябе проста, трапней кажучы, па-геніяльнаму проста. Але за геніяльнай прастатой такіх шэдэўраў сусветнай лірыкі, як напрыклад, пушкінскі верш «Я вас любил: любовь еще быть может», гётаўская «Начная песня падарожнага», лермантаўскі «Уцёс» стаіць складанейшы шлях чалавечага пазнання, тысячагоддзі гісторыі развіцця сусветнай літаратуры. У гэтых вершах не ўспамінаецца ні Адам, ні Фаўст, ні Праметэй, сюжэты іхнія не запазычаны ні з антычнай міфалогіі, ні з Бібліі, але для таго, каб стварыць такія шэдэўры, трэба ведаць і легенду пра Адама, і Фаўста, і Праметэя, і багата-багата чаго іншага.

Гэтым я зусім не хачу сказаць, што не трэба звяртацца да вобразаў Фаўста альбо Праметэя і г. д. Усёй сваёй істотай, усімі сваімі творчымі здабыткамі, няхай яны і занадта сціплыя, усімі сваімі думкамі я далёкі ад гэтага. Я сам у першыя пасляваенныя гады пераклаў на беларускую мову з нямецкай і ўрыўкі з гётаўскага «Фаўста» і ягонага «Праметэя».

Па-трэцяе. Не заўсёды гэта велічная, гэта складаная прастата бывае спадарожніцай выдатнейшых твораў. Нярэдка складаны змест арганічна і ўладна патрабуе звароту і да антычнай міфалогіі, і да легенд еўрапейскага сярэднявечча, карацей кажучы, у залежнасці ад пільнай неабходнасці да самых розных твораў самых розных эпох і народаў. Прыкладаў можна прывесці дужа багата і з творчасці класікаў сусветнай літаратуры, і з творчасці нашых сучаснікаў. У такіх выпадках зварот да вобразаў і матываў, пра якія ўжо столькі гаварылася вышэй, будзе цалкам апраўдана.

Пра ўсё гэта трэба гаварыць у святле ленінскіх указанняў аб неабходнасці авалодання скарбамі сусветнай культуры і скарыстання іх з улікам патрабаванняў нашага часу. Наўрад ці хто-небудзь з сучасных паэтаў напісаў бы радкі, насычаныя міфалагічнымі вобразамі, як гэта зрабіў паўтара стагоддзя назад 24-гадовы Пушкін у пачатку свайго верша «Празерпіна»: «Плещут волны Флегетона, своды Тартара дрожат, кони бледного Плутона, быстро к нимфам Геликона из Аида бога мчат...» Іншы час, іншыя патрабаванні да верша, да ўсёй яго фактуры.

І зусім незразумела, чаму М. Барсток вузкасць нашай паэзіі бачыць у тым, што яна рэдка звяртаецца да вобразаў Праметэя, Фаўста, Адама, да антычных і біблейскіх міфаў, чаму з такім запалам усхваляе нашага міфічнага прабацьку Адама з верша У. Караткевіча. Гэты Адам, паводле слоў М. Барсток, «надзелены вялікай здольнасцю празарліўцы, ён прадбачыць увесь далейшы шлях чалавецтва, ля вытокаў якога стаіць». Што ж тады застаецца рабіць нам, нашым дзецям і ўнукам? З якой асалодай пасля такіх выказванняў паўтараеш сам сабе словы У. Маякоўскага:

**Слезайте**
**с неба, заоблачный житель!**
**Снимайте**
**мантии древности!**
**Сильнейшими**
**узами музу вяжите,**
**Как лошадь,**
**в воз повседневности.**

Наш вялікі час, эпоха сацыялістычнага пераўтварэння жыцця чалавецтва, ставіць перад намі ўсё новыя і новыя задачы і пытанні, непараўнальна больш складаныя, чым тыя, якія даводзілася вырашаць раней нашым продкам. Перш нам трэба ўслаўляць Фаўстаў і Праметэяў нашых дзён, герояў вялікіх бітваў і вялікіх здзяйсненняў нашай сучаснасці—**наша тут і наша сёння.** Таму сучасны жыццёвы матэрыял павінен быць першаасновай нашых твораў. Да гэтага павінны заклікаць нашы крытыкі, нашы тэарэтыкі. І зусім не абавязкова дбаць пра тое, каб героі нашых твораў — трактарысты, партработнікі, аграномы, шахцёры, чэкісты і г. д. — знаходзіліся ў нейкай пераемнай сувязі з біблейскімі персанажамі альбо героямі антычных міфаў.

І пра вузкасць нашай паэзіі трэба гаварыць зусім не так, як гэта робіць М. Барсток. Гэтую вузкасць мы бачым перш за ўсё там, дзе наша паэзія пачынае адрывацца ад жыццёвых крыніц, ад актуальных праблем нашай сучаснасці, аддаляцца ад магутнай плыні народнага жыцця.

---

Але Янка хутка ўстане,
Смела праўдзе ў вочы гляне,
І прызнаецца матулі
Пра ўчарашнія ён гулі.
Так рабіць не будзе болей.
Больш не пойдзе ўжо ніколі
Марна траціць вольны час
І падводзіць родны клас.

Не ўтрымліваецца ад спакусы даць хуткае «тлумачэнне» педагагічнай ідэі твора і А. Дзеружынскі («Янкава пяцёрка», «Агароднікі»). Паэтычнаму раскрыццю прыгажосці працы ў вершы пра маленькіх агароднікаў замінае вось такая лабавая «расшыфроўка»:

Каштавалі
Моркаўку.
Каштавалі.
— Ой, якая смачная,—
Мы казалі.—
Смаката, смаката,
Любата, любата,
Недарэмна працавалі.
(«Мы сеялі моркаўку»).

Адным словам, размова з дзецьмі суконным языком проповеди» (М. Горкі), імітацыя сапраўдных пачуццяў і думак маленькіх, падмена эмоцый павучаннямі — асноўныя недахопы многіх дзіцячых вершаў нашых паэтаў.

Нямала ў нашай паэзіі для дзяцей і вершаў-пустышак, вершаў-цацачак. Замест адказу на шэраг важных і патрэбных дзіцячых «чаму?» і «што?» асобныя паэты (У. Скарынкін, Н. Галіноўская, У. Бабкоў, Я. Крупенька, Е. Лось, К. Камейша, І. Муравейка, Д. Бічэль-Загнетава, А. Дзеружынскі і іншыя) нярэдка захапляюцца дробязямі. У нас мала твораў праблемных, з глыбокімі сюжэтамі і яркімі вобразамі. Дагэтуль дае аб сабе знаць тэматычная абмежаванасць паэтычных кніжак для дзяцей. Паэты ўсё топчуцца, як кажуць, на адным месцы, баяцца ці не жадаюць закранаць новыя, малараспрацаваныя тэмы. Вершы пра птушак і жывёл, пра зёлкі і кветкі, пра матылькоў і казюрак таксама патрэбны. Але яшчэ больш патрэбны творы пра гераіку сучаснага жыцця, пра Савецкую Армію, пра наша мінулае і будучае. Трэба ствараць кніжкі, якія б рыхтавалі дзяцей да жыцця, выхоўвалі з іх грамадзян і патрыётаў.

Вось як піша І. Муравейка:

Снягурачка белая
Па вуліцы бегае.
З вецярком спрачаецца,
У сняжку качаецца.
Пуховая, снежная,
Шустрая і смешная.
Гэта — не снягурачка,
Гэта наша Шурачка.
(«Снягурачка»).

Верш — дробязны па змесце, і гэтую беззмястоўнасць аўтар спрабуе кампенсаваць надуманай займальнасцю, сюсюканнем.

Усе мы з маленства ведаем урывак «Не ветер бушует над бором...», з паэмы М. Някрасава «Мароз—Чырвоны Нос», у якім дадзены класічны малюнак марозу. А што ж новага, свайго сказаў М. Чарняўскі пра мароз? Акрамя стукату і грукату, у яго вершы ні думкі, ні вобраза:

Грук-грук!
Грук-бух!
Анямеў я
І аглух.
Да апошняе хвіліны
Я не скончу страляніны.
Грук-грук!
Грук-бух!
. . . . . . . . . . . . . .
Г-гах, г-гах!
Г-гах, г-гух!
Сам ад грукату аглух.

Ад такога грукату можна аглухнуць і даросламу, не толькі малому...

Чытаеш падобныя вершы і ўспамінаюцца заўвагі Сяргея Баруздзіна пра дзіцячую паэзію, якія не лішне напомніць нашым паэтам: «Але, на жаль, у нашай маладой паэзіі для дзяцей не-не і з'яўляюцца дробязныя вершы, вершы-пустышкі. Часам, нават выдатна напісаныя па форме, яны нічога не нясуць ні розуму, ні сэрцу дзіцяці. Чытаючы такія вершы, мне звычайна хочацца сказаць іх аўтарам: паглядзіце назад, на тое, што ўжо створана савецкай і сусветнай паэзіяй для дзяцей. Там, сапраўды, ёсць на што паглядзець і чаму назучыцца!»

Што, напрыклад, можа даць дзецям верш С. Пацёмкіна «Імяніны», у якім сумная копія звычайнага жыццёвага факту? Дзяўчынкі Лена і дзве Надзі, а таксама хлопчык Міша — імяніннікі. У дзетсадзе іх пасадзілі асобна за стол, ім прыносяць падарункі. А Пеця, Іра і Ніна, гледзячы на гэта, кажуць: «хутка нашы імяніны». Вось і ўсё.

Наўрад ці зацікавіць маленькіх такі расказ аб прафесіі лётчыка, канструктара-авіятара ў вершы Д. Бічэль-Загнетавай «Самалёт», дзе гэты самалёт «коўзаецца па лядку, як цяля на павадку».

Нямала шэрых і пуставатых вершаў ёсць і ў А. Дзеружынскага («Сарока», «Майскі вечар», «Нештачка»), і ў І. Муравейкі («Папяровы змей», «Смешны козлік», «Андрэйка»), і ў многіх іншых.

На жаль, нашы паэты нярэдка забываюць, што нельга празмерна захапляцца жартаўлівымі дробязямі, што толькі сплаў весялосці і забавы з глыбокай думкай і пачуццём нараджае сапраўдную паэзію.

Прычын таго, што ў сучаснай беларускай паэзіі для дзяцей яшчэ нямала шэрага і пасрэднага, твораў-гульняў, твораў-цацак, — многа. Гэта і віна саміх паэтаў, і нізкая якасць рэдактуры. Аднак галоўнае — забыццё многімі дзіцячымі паэтамі таго, што асноўны напрамак літаратуры для дзяцей — глыбокая змястоўнасць і сапраўднае майстэрства.

## Паэтычная паверка

### Вера ПІЛЕЦКАЯ



●

Якія мары ў вечары,
Якія сосны!
З блакітных лодак у бары
Выходзяць вёсны.

І па зямлі яны вядуць
Зялёны колер.
Глядзяцца ў радасную Друць
Лясы і поле.

Мой край, я выбрала сама
Твае разлогі.
Да шчасця іншае няма
У жыцці дарогі.

●

Сыграйце, гуслі, для мяне
Шчаслівае сказанне
Аб жураўлінай старане
Над рэчкай на світанні.

Сыграйце, гуслі, для мяне
Пра звонкія шыроты,
Пра лета ў роднай старане,
Пра шчасце і турботы.

### Пятро СУШКО



## СЭРЦА ПАЭТА

Занядужыў паэт,
бо нялёгкі меў лёс,
да ўрача ў кабінет
сваё сэрца прынёс.

Добры трапіўся ўрач,
залаты чалавек,
надаваў шмат парад,
як падоўжыць свой век.

Тытуню не куры,
не дурмань галавы,
у зялёным бары
пі настой баравы.

У выпадках такіх
лепшы сродак — спакой.
Хваляваццa пакінь —
зніме боль, як рукой.

Стаў выконваць паэт
прадпісанні ўрача,
і дыету, як след,
ён захоўваць пачаў.

Ходзіць ён між лугоў,
ходзіць ён над ракой,
толькі ў сэрца яго
не прыходзіць спакой.

Хіба можа рака
не цячы, не звінець?
Хіба могуць лугі
не спяваць, не шумець?

Хіба можа Сусвет
адысці ў небыццё?
Хіба можа паэт
не спяваць пра жыццё?

Так і крочыць паэт
па жыцці многа год,
для людзей не шкадуючы
сэрца свайго.

### Барыс БЕЛІЖЭНКА



## ХАТЫНЬ БЕЗ ХАТ

Хатынь без хат,
Хатынь без гаспадынь.
Якая ж ты Хатынь?
На сэрцы стынь...
Не! Бачу хаты я:
З нябыту ўсталі вунь
Яны з-пад папялішчаў
і пустэчы,
Спяшаюцца хатынцы
на сустрэчу,
І ў агародах зелянее рунь.
Выходзяць гаспадыні за вадой,
Рыхтуюць кавалі падковы
коням,
Паволі статак сунецца на гоні,
І дзеці п'юць духмяны
сырадой...
...Так толькі на імгненне
ўяўлю —
А хат няма і галасоў не чую...

## БЫЛЫЯ СТУДНІ

Былыя студні! Ў вашай глыбіні
Хатыні засталіся адгалоскі:
Начной драмоты ціхія
усплёскі
І гукамі напоўненыя дні.
І радасныя клічы хлапчанят,
І непаўторны грукат абмалоту,
Халодных лістападаў пазалота
І сумны погляд прагнага каня...
Забыты жураўля тужлівы рып...
Але падчас яшчэ сюды
прыходзіць,
Нібы з былога, зморaны стары,
Да студні падыходзіць
апантаны,
Здаецца, чуе звычнае пытанне:
«Ну, як там, жыта ў складзе,
не гарыць?»
...Няма з кім слова
перагаварыць...
У студнях тонуць назаўсёды
дні,
Ні гаманы, ні радаснага смеху.
А ўсё здаецца: раптам
з глыбіні
Ўарвецца перапоўненае рэха.

# УСІМІ ФАРБАМІ ВЯСЁЛКІ...

Выстаўкі кветак у нас надзвычай папулярныя. Яны сталі добрай традыцыяй у Мінску, абласных і многіх раённых цэнтрах рэспублікі. Сёлета, напрыклад, аднaчасова з экспазіцыяй кветак у Мінску такія ж выстаўкі былі наладжаны ў Жодзіна, Смалявічах і іншых гарадах. Прычасціцца да хараства і дзівосаў прыроды, пазнаёміцца з навінкамі селекцыйнай работы і разнастайнымі аранжыроўкамі (кошыкі, букеты, мініяцюры) прыходзяць тысячы людзей.

У Мінску гэта другі паказ сёлетніх кветак. У маі дэманстраваліся кветкі вясны, а зараз — традыцыйная экспазіцыя летніх. Летнія выстаўкі кветак не ўражваюць навізной і той першай вясновай аздобай прыроды, бо кветкі — паўсюдна: у парках, скверах, на вуліцах, дварах яны ўпрыгожваюць тэрыторыі фабрык і заводаў, школ, дзіцячых садоў і ясляў, клубных устаноў. Нават цэхі многіх прадпрыемстваў аматары-кветаводы ператвараюць у своеасаблівыя аранжарэі. Летнія выстаўкі як бы падводзяць вынікі работы нашых кветаводаў — і вучоных, і аматараў.

Мы трапляем у казачнае царства буйных сакавітых фарбаў — ад чорных, барвова-чырвоных да іскрыста-снежных. Пяшчотныя гладыёлусы, пацарску гордыя ружы і гваздзікі, пышныя астры і вяргіні, дзівосныя ільвіныя пашчы... Нямала тут экзатычных кветак, якія самі па сабе кідаюцца ў вочы.

Кветак многа. Прыглядайся да кожнай, любуйся непаўторным хараством, гарманічнасцю формаў і фарбаў. Пры жаданні можна атрымаць кваліфікаваную параду, як вырошчваць тую ці іншую кветку. Вам раскажуць пра яе асаблівасці і нават капрызы. Выстаўка стала месцам прапаганды такога высакароднага занятку, як кветаводства, своеасаблівым цэнтрам абмену вопытам. У гэтым яе вялікае значэнне.

Не менш важна і другое. Арганізатары летняй экспазіцыі кветкавых раслін — Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі БССР, Выканком Мінскага гарсавета дэпутатаў працоўных і гарадское аддзяленне Беларускага таварыства аховы прыроды, як відаць, мелі на мэце ўразіць не столькі разнастайнасцю калекцый кветак (хаця ўдалося і гэта), колькі іх практычным укараненнем у штодзённы побыт. Маецца на ўвазе масавае азеляненне і пасадка кветак у дварах, дзе мы жывём, на тэрыторыях фабрык і заводаў, культасветустаноў, школ і г. д. Як гэта зрабіць найбольш эканомна, прыгожа і зручна, каб наш горад ператварыўся ў горад-сад, хвалюе многіх аматараў-кветаводаў. Такія спецыялізаваныя ўстановы і гаспадаркі, як Цэнтральны батанічны сад Акадэміі навук БССР, Навукова-даследчы інстытут бульбы і пладаводства, камбінат дэкаратыўнага садоўніцтва, доследная гаспадарка Лошыца-1 дэманструюць на выстаўцы разнастайныя калекцыі раслін і часткова паказваюць зялёны і кветкавы ландшафт. А кветаводы Мінскага аўтазавода, трыкатажнай фабрыкі «Прагрэс», інфекцыйнай бальніцы, Цэнтральнай станцыі юных натуралістаў, мінскіх школ №№ 47, 5, 39, 114 расказваюць і паказваюць, які плён даюць іх намаганні. Праз альбомы, стэнды, часткова ў мініяцюрным паказе газонаў мы бачым, як пераўтвараюцца былыя пустэчы і смеццевыя звалкі ў квітнеючыя куткі, дзе так прыемна адпачыць.

На Мінскім аўтазаводзе 5 тысяч членаў Таварыства аховы прыроды. На тэрыторыі завода і пасёлка штогод высаджваецца 700 дрэў, 50 тысяч кустоў, 250 тысяч кветак. А газоны займаюць плошчу 10 гектараў. Завод мае аранжарэйную гаспадарку, якая забяспечвае аматараў-кветаводаў расадай, разводзіць кветкі ў гаршках і для букетаў. Куток кветаводаў-аўтазаводцаў на выстаўцы найбольш цікавы. З добрай выдумкай зроблены газон «50 год СССР». Арыгінальныя падстаўкі для кветак нагадваюць бярозку-нявесту. Дэманструецца багатая калекцыя кветкавых раслін. У кнізе водгукаў старшыня калгаса імя Чкалава Салігорскага раёна А. Дубоўскі пакінуў наступны запіс: «Дзякуй мазаўцам-кветаводам за любоў да прыроды, кветак, жывых раслін. Эстэтыка вытворчасці немагчыма без высокага пачуцця прыгожага ва ўсім нашым жыцці. Ваш цудоўны куток радуе і захапляе».

Прываблівае экспазіцыя 47-й сярэдняй школы і Цэнтральнай станцыі юных натуралістаў. Арыгінальна аформлены іх куткі на выстаўцы. Цікава і нечакана глядзяцца букеты руж у акварыумах, букеты дэкаратыўнага ячменю.

Багатую калекцыю летніх кветкавых раслін прапанавалі і мінскія кветаводы-аматары. А каля стэнда, дзе паказваюцца лекавыя расліны з падрабязным апісаннем іх гаючых якасцяў, нязменна тоўпіліся людзі, выпісваючы карысныя парады.

Як на кожнай выстаўцы, дэманстраваліся разнастайныя кветкавыя аранжыроўкі, арыгінальнай формы і задумы. Сярод іх было нямала знаходак: «Рэквіем», «У навагоднюю ноч», «Юнацтва», «Марсава поле», «Агонь Алімпа» і інш.



Парадавала стракатым дыванам кветак і выстаўка ў Смалявічах. Прыгожыя, розных адценняў гладыёлусы, ружы, вяргіні, астры засведчылі, што тут жыве нямала людзей, якія любяць прыроду. Старэйшы з іх — Сямён Савіч Качкалда — вырошчвае да ста гатункаў розных кветак. Ён заняты зараз тым, каб захаваць, даць пуцёўку ў жыццё старым, забытым гатункам кветак.

Цікавыя экспанаты паказваюць на выстаўцы настаўнікі муж і жонка Марыя Віктараўна і Павел Іосіфавіч Шагавікі, медыцынская сястра Галіна Хмара і яе дачка-пяцікласніца. Леначка паказала на выстаўцы складзены ёю букет вяргіняў, які яна назвала мір у В'етнаме».

У час Вялікай Айчыннай вайны Валянціна Аляксандраўна Парамонава змагалася з гітлераўскімі акупантамі ў партызанскім атрадзе. У тыя трывожныя небяспечныя дні яна марыла, як у пасляваенны час стане вырошчваць кветкі. І мара яе збылася. Калгасніца сваю сядзібу пераўтварыла ў цудоўны кветнік — адзін з лепшых не толькі ў вёсцы, але і ў раёне. Куточак кветавода-аматара ўпрыгожыў экспазіцыю выстаўкі.

Вельмі шкада, што выстаўка кветак у Смалявічах працягвалася ўсяго некалькі гадзін. Яе не ўбачылі школьнікі раёна, многія аматары жывой прыроды раёна. Як пажаданне на будучае: няхай на выстаўках кветак прымаюць удзел кожны калгас, саўгас, прадпрыемства і школа раёна або горада. Няхай яны спаборнічаюць за пераўтварэнне свайго горада ці раёна ў квітнеючы сад. Час ужо ад аматарства пераходзіць да арганізаванай і мэтанакіраванай работы па масавым развіцці кветаводства ў рэспубліцы.

Сёлетнія выстаўкі кветак Беларусі адлюстроўваюць святочны настрой савецкіх людзей у слаўным юбілейным годзе краіны.

Д. КУДЗЕЛЬКА.

# ПРА ВЯСЁЛАЕ — І ГЭТАК СУР'ЁЗНА!..

МАБЫЦЬ, многія з нас помняць, як М. Булгакаў, пачынаючы біяграфічны раман пра Мальера, звяртаецца да павітухі з просьбай быць асцярожнай з гэтым немаўленцам, бо яму наканавана лёсам быць... Ах, кіньце, адказвае тая, я і не такіх прымала... Не, такія нараджаюцца далёка не ў кожнай сям'і, спрабуе пераканаць павітуху яе «субяседнік праз вякі». Ён мае права на такое сцвярджэнне, бо час і гісторыя зрабілі геній Мальера адным з самых яркіх на тэатральным небасхіле.

Беларуская сцэна дала прыклады сапраўды творчага, глыбокага і арыгінальнага ўвасаблення яго камедый на новай для іх нацыянальнай глебе. Мальераўская сатыра заззяла нечаканымі фарбамі ў выкананні выдатных беларускіх акцёраў. Гартаючы «рэпертуарныя спісы» Л. Ржэцкай і А. Ільінскага, Ул. Крыловіча і В. Галіны, Г. Глебава і Л. Рахленкі, С. Станюты і Ул. Уладамірскага, бачыш, што для іх ролі ў мальераўскіх п'есах былі не «чарговымі», і каб даць поўную характарыстыку гэтым (і не толькі гэтым!) майстрам, трэба абавязкова пагаварыць пра «Лекара мімаволі» і «Скупога», пра «Мешчаніна ў дваранстве» і «Жоржа Дандэна», пра «Цырымонлівых паненак»... Карацей кажучы, без Мальера і тут не абысціся!

Тэатразнаўца Тамара Барысава напісала кнігу «Мальер на беларускай сцэне», якую да 350-гадовага юбілею вялікага французскага камедыёграфа выпусціла выдавецтва «Навука і тэхніка» пад грыфам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Як і папярэдняя работа Т. Барысавай — «Шэкспір на беларускай сцэне», гэтая ўпершыню сістэматызуе і дае сканцэнтраваны аналіз пэўных з'яў у тэатральным мастацтве, якія на гэты раз звязаны з ідэйна-творчай інтэрпрэтацыяй беларускімі артыстамі камедый Мальера, аднаго драматурга — рознымі калектывамі, рознымі артыстычнымі індывідуальнасцямі.

Т. Барысава. «Мальер на беларускай сцэне». Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск. 1972.

Зразумела, кожны, хто любіць тэатр, з цікавасцю сустрэне кнігу.

**Мяркуйце самі, варта нам разгарнуць старонкі, скажам, пра першую «ластаўку» мальераўскага рэпертуару на беларускай сцэне — пра спектакль «Мешчанін у дваранстве», як мы адразу даведаемся пра факты, раней не даследаваныя наогул або забытыя. Камедыю для пастаноўкі Першым БДТ (цяпер Акадэмічны тэатр імя Купалы) у 1924 годзе пераклаў на беларускую мову з парыжскага выдання «Славуты тэатр Мальера» 1895 года Фларыян Ждановіч, рэжысёрам спектакля быў Еўсігней Мировіч, пана Журдэна іграў бліскучы Генрых Грыгоніс, пані Журдэн — незабыўная Кацярына Міронава, эпізадычную ролю Муфція — Уладзімір Крыловіч. У тэксце гэтых персанажаў па волі пастаноўшчыка чуліся немальераўскія, але знаёмыя мінчанам назвы: «барысаўская дуда», «мінскі швэйпром», а герой выпраўляўся шпацыраваць... па Камароўцы і Пярэспе. Сатырычны гнеў камедыі быў скіраваны не толькі супроць французскага, як піша Т. Барысава, «пануючага саслоўя» (паводле Мальера), а і супроць... «мяшчанства часоў нэпа». Пагадзіцеся, што ўжо такі пералік імёнаў, фактаў, навацый сам па сабе прыцягвае ўвагу да даследавання.**

**Заўважым, што такія спектаклі, як той жа «Мешчанін у дваранстве» 1924 г. або «Скупы» 1937 г., Т. Барысава разглядае не толькі «праз прызму» друкаваных водгукаў аб іх у прэсе і архіўных матэрыялаў, а і па непасрэдных успамінах удзельнікаў. Асобныя нюансы, дэталі, мізансцэны, рэжысёрскія акцэнты ў трактоўцы як бы «аднаўляюцца» Л. Рахленкам, В. Галінай і іншымі тэатральнымі дзеячамі, гутаркі з якімі занатаваны аўтарам кнігі. І такі прыём узбагачае тэатразнаўчы аналіз дакладнымі рысамі таго, што «было» на сцэне. Напрыклад, і разгляд «Лекара мімаволі» ў Другім БДТ (цяпер тэатр імя Коласа ў Віцебску) 1940 года таксама ўспрымаецца намі як «аднаўленне» спектакля, пастаўленага маладым тады рэжысёрам С. Казіміроўскім, дзякуючы ўспамінам аб пастаноўцы ігры А. Ільінскага ў ролі Сганарэля артысткай М. Бялінскай, на якія спасылаецца даследчык.**

Калі ж яшчэ дадаць, што Т. Барысава не абмінула дэкаратыўнае афармленне кожнага з мальераўскіх спектакляў, што яшчэ, на жаль, часта робяць і рэцэнзенты, і гісторыкі (абмяжоўваюцца толькі прозвішчам мастака), што яна ўводзіць водгукі газет, на якія, здаецца, раней ніхто не спасылаўся, то ўсім стане ясна: кніга мае багаты фактычны матэрыял, закранае новыя пытанні і імёны.

Праўда, насцярожвае адразу такая акалічнасць. Гаворка вядзецца пра сатырычныя спектаклі, пра камедыйныя вобразы. Але падаецца ўсё ў чыста апісальнай манеры. Нейкі, умоўна кажучы, даследчыцкі спакой пануе на старонках кнігі Т. Барысавай. Мабыць, акадэмічны грыф стрымліваў эмацыянальныя ўсплёскі аўтара і вымушаў яе заставацца вельмі «сур'ёзнай».

Таму, відаць, спачатку мы бачым Т. Барысаву, якая нібы радуецца вынаходлівасці таго ж Е. Міровіча, што так смела і ў духу таго часу «асучасніваў» некаторыя матывы «Мешчаніна ў дваранстве» (ну, прынамсі, гаворыць пра гэта добразычліва). Але «пад заслону» сваёй гаворкі пра спектакль Т. Барысава падкрэслівае выдаткі рэжысуры: «разбурэнне вузка бытавой трактоўкі Мальера» Е. Міровічам вяло да таго, што акцёры пад прымусам падначальваліся яго «бачанню» камедыі, «наіўнымі» былі спробы надаць «персанажам XVII ст.» рысы «тых тыпаў, якія сустракаліся ў сучаснай рэчаіснасці». Потым зноў жа ідзе аўтарскае «аднак» і навацыі рэжысёра тлумачацца як «выдаткі захаплення, хвароба росту...»

**Атрымліваецца, што імкненне іграць нетрадыцыйна — і добрае, і ў той жа час недастаткова плённае. (Тут яшчэ і фактычныя памылкі ёсць: Е. Міровіч не быў «піянерам» у выкарыстанні рампы і аркестравай ямы, засцеленай дадатковай падлогай, і не пасля Першага БДТ, як сцвярджае аўтар, «намнога пазней, у 50—60-х гадах... Такі прыём стаў часта выкарыстоўвацца рэжысёрамі і мастакамі ў многіх тэатрах нашай краіны». І раней тэатры пашыралі межы сцэнічнай пляцоўкі за кошт авансцэны і нават глядзельнай залы). Напісана ўсё гэта так, быццам Т. Барысава імкнулася заставацца абавязкова «нейтральнай», рэгістраваць пэўныя факты без выяўлення асабістых адносін да навацый (яна іх толькі называе) і да традыцый (іх цалкам разбураць, паводле даследчыка, не варта). Ці не адсюль ідзе празмерна «сур'ёзная» афарбоўка і пэўны «акадэмічны» холад тэксту, што належыць пяру Т. Барысавай?..**

Другі момант, які таксама здзіўляе. Прачытаўшы назву кніжкі, кожны зразумее, што яна адрасуецца тым, хто ведае Мальера і ведае беларускую сцэну. Як казаў калісьці Стэндаль, чакаеш, што аўтар адразу і пойдзе «проста на прадмет» даследвання. А тут чытаеш занадта агульны па характары «Уступ», дзе зноў і зноў паўтараюцца энцыклапедычныя звесткі пра Мальера. Канцэпцыя Т. Барысавай цалкам супадае з канцэпцыяй вядомага знаўцы заходнееўрапейскага тэатра Г. Баяджыева. Яго кнігі пра Мальера агульнавядомыя. А Т. Барысава пераказвае Г. Баяджыева і гаворыць яму кампліменты ў кнізе, якая выдадзена ...пад навуковай рэдакцыяй доктара мастацтвазнаўства прафесара Г. Баяджыева! Ці тактоўна гэта? Не кажучы ўжо аб тым, што «Уступ» у такой рабоце наогул не вельмі патрэбны.

І скажам яшчэ пра агульную для ўсіх (ну, амаль для ўсіх) нашых тэатразнаўцаў. Кніга напісана пераважна канцылярскай мовай. Каб пацвердзіць такі закід, працытуем адно выказванне Т. Барысавай. «Адкрывалася заслона, — піша яна пра «Лекара мімаволі» ў Другім БДТ, — і на сцэне ўзнікаў свет французскай правінцыі. Першая інтэрмедыя «Патасоўка» адбывалася ў хаціне Сганарэля. Праз акно хаціны было відаць, што там ішла сапраўдная баталія. Сганарэль і Марціна то наступалі адзін на аднаго, то ганяліся адзін за адным, і ў акне мільгалі іх твары, узбуджаныя барацьбой. Потым, як ні ў чым не бывала, з-за куліс на сцэну выходзіў Сганарэль — А. Ільінскі. Распяваючы бадзёрую гуллівую песеньку, ён пачынаў збіраць галлё... Лес быў прадстаўлен вялікім дуплістым дрэвам...» Па-першае, адразу адчуваеш, што перад табой калька з рускай мовы. Па-другое, што ж «узнікала на сцэне» пасля адкрыцця заслоны? «Свет французскай правінцыі»? (Дарэчы, што гэта такое і як яго можна паказаць на сцэне — «свет правінцыі»?) Можа, гэты свет — «хаціна Сганарэля»? Але ж мы і яе, калі верыць Т. Барысавай, бачым... «праз акно». Там, па-за вакном хаціны, адбываецца сварка. Так? Дык жа якім чынам потым Сганарэль «збірае галлё» ў «свеце французскай правінцыі»?.. Чытач заблытваецца ў такім апісанні, не можа ўявіць сабе, якія былі дэкарацыі, дзе адбываліся падзеі і як змянялася месца іх.

**Або яшчэ пра той жа спектакль: «фарсаваму прыёму — біццю палкай, — які не раз паўтараўся ў спектаклі, рэжысёр С. Казіміроўскі разам з мастаком А. Марыксам і кампазітарам Л. Маркевічам удзялялі вялікую ўвагу». Мастак А. Марыкс быў аўтарам дэкаратыўнага афармлення, зрабіў эскізы касцюмаў, але як ён мог «удзяляць увагу»... мізансцэне (або мізансцэнам)? «Былі знойдзены і дакладна адпрацаваны мізансцэны, — працягвае аўтар кнігі, — у якіх дзейнічалі той, каго збівалі, і той, хто збіваў...». Ну, а як гэта магло быць інакш — заўсёды ў бойцы ёсць «той, хто б'е» і «той, каго б'юць»! Што тады было «знойдзена» рэжысёрам разам з мастаком і кампазітарам? Бо на сцэне тузаліся звычайныя ўдзельнікі бойкі!..**

Каб не зацягваць рэцэнзію, прыкладаў больш прыводзіць не будзем. Скажам толькі, што рэдактары кнігі ад інстытута і ад выдавецтва (А. Сабалеўскі і Г. Юрчанка) маглі і былі абавязаны параіць аўтару ачысціць кнігу ад моўных агрэхаў.

...Паўторым сказанае ў назве: пра вясёлага і з'едлівага камедыёграфа і пра сапраўды смешныя і змястоўныя спектаклі аўтар кнігі «Мальер на беларускай сцэне» расказаў падрабязна, са спасылкай на факты, на прэсу, на ўспаміны, але зрабіў гэта залішне «акадэмічна». Тым самым Т. Барысава (разам з выдавецтвам) абмежавала кола чытачоў сапраўды патрэбнай кнігі. Бадай, да яе будуць звяртацца пераважна спецыялісты, тэатральныя дзеячы і літаратары.

**В. ІВІН.**

# ДЫЯМЕНТЫ РОДНАЙ МОВЫ

«Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі»... Гэтая кніга з'явілася ў выніку шматгадовай, сумеснай творчай працы кандыдатаў філалагічных навук, дацэнтаў Белдзяржуніверсітэта Е. С. Мяцельскай і Я. М. Камароўскага.

У слоўнік уключана каля трох тысяч фразеалагічных адзінак, тлумачыцца іх сэнс, вызначаецца стылявая роля і ілюструецца звязным тэкстам з гутарковай мовы.

Фразеалагізмы, ці як іх яшчэ называюць, ідыёмы, ідыёматызмы, ідыёматычныя выразы, з'яўляюцца непадзельнымі, стабільнымі, устойлівымі словазваротамі. Яны надаюць мове тую непаўторную самабытную якасць — вобразнасць, эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку, якая складае нацыянальны каларыт. У фразеалагізмах знайшлі адбіццё гістарычны вопыт народа, яго ўяўленні, звязаныя з працоўнай дзейнасцю, побытам, культурай.

Фразеалагізмы гэтак жа старажытныя, як і сама мова. Аднак іх гісторыяй, прыродай узнікнення ў нас мала хто займаўся. Першыя, найбольш удалыя тлумачэнні беларускіх фразеалагізмаў яшчэ ў дарэвалюцыйны перыяд далі П. Шпілеўскі, І. Насовіч, М. Нікіфароўскі. У савецкі час многа зрабіў у збіранні народнай фразеалогіі І. Бялькевіч. Праўда, усе гэтыя працы насілі выпадковы характар, у іх шмат было недакладнага, прыблізнага. Грунтоўную работу ва ўпарадкаванні беларускай фразеалогіі правёў доктар філалагічных навук прафесар Ф. Янкоўскі, чые працы атрымалі самую высокую ацэнку не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

У слоўніку выключна багата прадстаўлены формы і варыянты фразеалагізмаў. Па 10—20 фразем утворана народам са словамі «глядзець», «душа», «жыць», «зубы», «адзін», «свет», «рука», «вочы», «стаяць», «сядзець», «браць», «ногі», «нос», «язык», «пайсці» і г. д. Са словам «даць» зафіксавана звыш 50 фразеалагічных мадэляў — «даць адчэпнага», «даць ганьбу», «даць драла», «даць дыхту», «даць лупня» і г. д.

Мы лічым, што слоўнік надзвычай выйграў ад таго, што яго складальнікі ўключылі шэраг дыялектных фразеалагізмаў тыпу: «браць у палетнікі» — наймаць, запрашаць на работу тэрмінам на лета, «даць у халамок» — набіць, адлупцаваць (халамок — ад холка — патыліца) і г. д.

Відаць, калі б аўтары павялі свае пошукі ў гэтым напрамку смялей і шырэй, іх слоўнік значна папоўніўся б арыгінальнымі і самабытнымі мясцовымі словазваротамі.

Перад аўтарамі слоўніка стаяў шэраг складаных задач — крытэрый адбору фразеалагізмаў, прынцыпы іх размеркавання, суадносіны розных фразеалагізмаў, фразеалагізмы-сінонімы, вытлумачэнне іх сэнсу. І з гэтай задачай яны справіліся паспяхова. Так, вытлумачэнне асноўнага сэнсу фразеалагізмаў, выяўленне іх іншых стылявых значэнняў, як правіла, сціслае, дакладнае і слушнае. На жаль, нельга пагадзіцца з тлумачэннем, якое даецца, напрыклад, фразеалагізму «хоць стой хоць падай» — паводле думкі аўтараў, трапна, дасціпна, «адзін аднаго не перацягне» — пра людзей з аднолькавымі характарамі, «двaіцца ў вачах» — дрэнна бачыць, падвойна бачыць. Не зусім удалае тлумачэнне, нам уяўляецца, атрымаў фразеалагізм «абуць у лапці» — вучыць, настаўляць. Гэты агульнавядомы фразеалагізм азначае: абрабіць, ашукаць, правучыць і г. д. Паводле адной з версій, ён бярэ свой пачатак ад рабаўніцкай дзейнасці прафесійных зладзеяў, якія некалі пры крадзяжы (кароў, коней), каб замесці свае сляды, жывёлу абувалі ў лапці.

Нам здаецца, што не месца ў слоўніку народнай фразеалогіі словазваротам «давесці да балалайкі», «шарыкі за шарыкі», не пазбаўленых прыкметнага налёту вульгарызму. Мусіць не зусім апраўдана ўключэнне ў кнігу словазлучэнняў «дзяржаць лінію», «дзяржаць у руках», «жыць чужым трудом», «дзела нет». Гэта рускія фраземы, і іх знаходзім у адпаведных рускіх слоўніках. Нарэшце, ці была патрэба даваць фразеалагізмы, якія так добра прадстаўлены Ф. Янкоўскім?

Слоўнік чытаецца з вялікай цікавасцю не толькі таму, што ў ім адабраны цікавыя фразеалагізмы. Цікавай кнігу робіць і яе ілюстрацыйны матэрыял. Кожны сказ — гэта своеасаблівая мініяцюра.

Для літаратараў, журналістаў, пісьменнікаў «Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі» Е. С. Мяцельскай і Я. М. Камароўскага — добры памочнік, харошы даведнік.

**І. ЦІШЧАНКА.**

[1]) Е. С. Мяцельская, Я. М. Камароўскі. «Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі». Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск, 1972.




**ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»**

**Агні Мінска. Альбом.** На беларускай і рускай мовах. У альбоме выкарыстаны вершы М. Танка, А. Русецкага, С. Грахоўскага, П. Прыходзькі, А. Зарыцкага, К. Кірэенкі. Тэкст і складанне Ул. Юрэвіча. Фатаграфіі В. Ждановіча і А. Мызнікава. Мастак П. Драчоў. 1972 г. Тыраж 55 000 экз. Цана 1 руб. 20 кап.

**Ул. Алоўнікаў. Песня ў дарозе...** Мастак Н. Лазавы. 1972 г. 52 стар. Тыраж 1 500 экз. Цана 64 кап.

**М. Баганаў, А. Капілаў. Шлях на Алімп.** Мастак Л. Чурко. На рускай мове. 1972 г. 104 стар. Тыраж 10 000 экз. Цана 14 кап.

**Вакальныя творы на словы Я. Купалы. Зборнік. Складальнік Д. Жураўлёў.** Мастак І. Бялецкі, 1972 г. 40 стар. Тыраж 1 300 экз. Цана 32 кап.

**Лірычныя песні. Зборнік. Мастацкай самадзейнасці.** Мастак І. Бялецкі. 1972 г. 64 стар. Тыраж 8 600 экз. Цана 54 кап.

# МЕРА ШЧЫРАСЦІ

**Н**ОВАЯ КНІГА Уладзіміра Кудзінава «Прадчуванне перамен» носіць жанравы падзагаловак «Апавяданні аб прыродзе». Аднак гэтае вызначэнне не зусім дакладнае.

Апавяданне звычайна ажыццяўляецца ў форме сюжэтнага расказу. У кнізе Ул. Кудзінава няма такога дзейснага сюжэта, у якім адбываюцца падзеі, а ёсць рух лірычнай думкі героя, праз якую адлюстроўваецца свет, прырода. І калі асобныя творы і напісаны ад трэцяй асобы, дык гэта не замінае ім быць своеасаблівай споведдзю ўсё таго ж аўтара, таму што героі не цікавяць яго самі па сабе, а з'яўляюцца толькі сродкам выказвання аўтарскага «я». Акрамя таго, гэта кніга, як і ўсе кнігі з ярка акрэсленым аўтарскім крэда, прэтэндуе на мастацка-філасофскія абагульненні, што выклікае на роздум аб асаблівай адказнасці пісьменніка.

Для спавядальнай, лірычнай прозы мера шчырасці—першая ўмова. Цэнтральны аб'ект назіранняў і роздуму Ул. Кудзінава—гэта сучасны чалавек у яго адносінах не толькі да прыроды, але і да свету ў цэлым. Размах аўтара шырокі. Фактычныя даныя аб прыкметах прыроднага свету суседнічаюць з філасофскімі высновамі, дакументальнасць перабіваецца вымыслам, паказ сапраўдных падарожжаў (Карпаты, бераг Балтыйскага мора, курскія і беларускія запаведныя лясы) падаецца на фоне, шчыра кажучы, глабальных абагульненняў. Вось тыповы ўзор пераходу Ул. Кудзінава ад факта да абагульнення: «В оврагах и заросших кустами отвершках подсыхает земляника.

Во второй раз в году садятся на яйца мухоловки, горихвостки и воробьи.

Покойно и мирно, и воля расслаблена, всё преходящее потусторонне и не тревожит» («Свантавіт і Дзевона»).

Канечне, тут даволі цяжка зразумець, якім чынам мухалоўкі атоесамліваюцца з тагасветнасцю — відаць, аўтар меў на ўвазе вечны калаўрот прыроды, нараджэнне і смерць, аднак у такім выпадку ў мэтах мастацкасці, напэўна, трэба было знайсці нешта больш істотнае ў прыродзе, чым мухалоўка ці верабей. І чаму «преходящее потусторонне»? А што тады «посюсторонне»? Ці не даніна гэта абстрактнай прыгажосці?

Між іншым, у Ул. Кудзінава свой, асаблівы погляд на праблему мастацтва і прыроды: «Я думал, что никогда не понимал, как не понимаю сейчас, тех литераторов и режиссеров кино, что подгоняют свободное движение солнца, облаков или льда под переменчивое движение души или, скажем, под семейную свару... Наверно, все дело тут попросту в пренебрежении природой, в отношении к ней как некоему атрибуту жизни и художественного произведения, а подобный прием есть прием досужий, искусственный, то есть не даденный (?) талантом. Не знаешь природы, оставь ее в покое до лучших времен, ведь это тоскливо и невыразимо больно, когда она представлена глухой и неразумной стихией, почвой для произрастания потребительства, дежурной деталью или, в лучшем случае, призвана работать на замысел автора».

Пакінем убаку эмацыянальны настрой аўтара, і разбярэмся па сутнасці. Па-першае, наўрад ці хто можа сказаць пра сябе, што ён добра ведае прыроду (я думаю, Прышвін з уласцівай яму сціпласцю, наўрад ці рызыкнуў бы сцвярджаць гэта). Па-другое, Ул. Кудзінаў не піянер у распрацоўцы гэтай тэмы. Дык навошта закрэсліваць усе дасягненні папярэдняй думкі і настайваць на неіснуючай самастойнасці прыроды ў мастацтве? Яе ж няма і быць не можа. Гэта ў жыцці прырода незалежная ад чалавека, а ў мастацтве яна цалкам у руках творцы духоўных, культурных каштоўнасцей, г. зн. мастака. Іншая справа, калі размова ідзе аб рамесніцкіх «вырабах», аднак ці варта пра гэта гаварыць перад тварам мастацтва і прыроды.

А між тым кніга Ул. Кудзінава пабудавана такім чынам, што фактычныя даныя аб прыродзе, эмпірычныя назіранні аўтара існуюць самі па сабе, а «вымысел прекрасный» сам па сабе.

Арганічнага мастацкага сплаву прыроднага і чалавечага (духоўнага) у кнізе Ул. Кудзінава не адбылося. А калі і робіць аўтар такія спробы, то яны выглядаюць альбо наіўнымі, альбо прэтэнцыёзнымі.

Вось расказ пра «натуральнага чалавека» трактарыста Міцьку («Свантавіт і Дзевона»). Не наступіла яшчэ для Міцькі свята любві, «вялікае і цудоўнае таінства», і аўтар зазначае з гэтага выпадку: «Не затрубил еще Митька, как горячий олень по осени». Пры ўсёй павазе да язычаскага светаадчування гэтага кароткага апавядання, а таксама пры ўсім пакланенні законам прыроды, усё-такі параўнанне чалавека з аленем не можа не выклікаць здзіўлення.

...Трэба аддаць належнае Ул. Кудзінаву, ён не ідэалізуе «старыя сувязі чалавека і прыроды», не хоча, як ён гаворыць, валіць «поперек течения реки древнее дерево...» (стар. 48). Для яго адносіны чалавека і прыроды поўныя супярэчнасцей і барацьбы. Але гэта, так сказаць, для іншых, а сам аўтар нідзе не адчувае сябе «не толькі чужым, але і нават выпадковым» (стар. 29), і не толькі з людзьмі, якія жывуць у гарах ці ў лясах, але і сам-насам з прыродай. Такое спрошчанае ўяўленне аўтара аб сваёй арганічнасці ў прыродзе кампраметуецца ім жа самім. Наўрад ці чалавек, які адчувае сябе другам і братам усяго жывога, напіша: «Светозарное, импрессионистское небо» (стар. 26). «Вучонае» слова разбурае ілюзію натуральнасці, падрывае ўпэўненасць у шчырасці аўтара. А вось яшчэ ўзор прэтэнцыёзнасці: «Небо было еще достаточно светлое, и на его фоне виднелись четкие очертания ветвей и не успевших опасть листьев. Все это было недвижно, не горело и не переливалось—словно декорации в театре, оставленные осветителем, который во время представления сбежал в буфет и сидит там за дюжиной пива в позе роденовского «Мыслителя» (стар. 49). Першая частка гэтага апісання зроблена проста і паэтычна, г. зн. па-мастацку. Другая—ушчэнт перакрэслівае ўсе вартасці першай. Гэта рэмінісцэнцыя выдумана, а заліхвацкае параўнанне асвятляльніка з радэнаўскім «Мыслителем» проста зневажальна.

Прыведзены прыклад не адзінкавы ў кнізе Ул. Кудзінава, ён паўсюдны і, больш таго, структурны. Вось як піша аўтар пра свой, умоўна кажучы, творчы працэс: «Я вернулся на Сретенку и побрел ею, думая о Пришвине, о былой моей жизни в Москве и о том, что сталось потом, — обо всем помаленьку, в бесконечнай ассоциативной связи» (стар. 63).

Такім чынам — «пра ўсё патроху, у бясконцай асацыятыўнай сувязі». Адным словам, як думаецца, так і пішацца? Зразумела, не, гэта не зусім так. У кнізе «Прадчуванне перамен» ёсць тая добрая зададзенасць, якая і робіць мастацтва мастацтвам. Без эстэтычнага ідэалу, а значыць і без пэўнай накіраванасці твора, паўнацэннай літаратуры нельга ўявіць. І ўсё ж «пра ўсё патроху» пераважае, і чытач бачыць перад сабой сумесь выпадковасцей, у якой аўтарскі твар цяжка ўявіць. Вось як піша аўтар «пра адну ноч», якую правёў ён «у бярэзінскіх лясах»: «Выпей глоток!» — вспомнил я застольную реплику трехкратной чемпионки мира среди говорящих попугаев Жакотт (Франция) и, потушив огонь, сел к окну и приготовился бережливо подумать о многих разных вещах. У этих вещей не было меры, и между ними не было связей, за исключением глубоко внутренних, и потому невозможно даже вскользь обо всем написать» (стар. 123—124). Тым не менш аўтар піша, і піша не мімаходзь, а падрабязна, аддаючыся рытму «бясконцай» асацыятыўнай сувязі. Так пабудавана адно з самых аб'ёмных апавяданняў (па тэрміналогіі аўтара): «Зноў ходзяць ноччу дрэвы». І чаго толькі няма ў гэтым лірычным урыўку: любоўнае апісанне «на трех бронзовых изящных гвоздиках мягкого ковра» ў гарадской кватэры аўтара і ўпамінанне (сапраўды мімаходзь), «родильного отделения Минской клинической больницы № 5», и «Серебрянный звездный рисунок» (ці ж не праўда, вельмі прыгожа!). і камені старажытнага Херсанеса, і радасць чубаткі, якая знесла яйка, і г. д. Адным словам, —трохразовая чэмпіёнка свету Жакот (Францыя) і рэчы, у якіх няма меры. Аўтар называе ўзесь гэты калейдаскоп «благословенной связью животных, людей и событий». Аднак на самай справе шуканай сувязі няма, яе няма як мастацкага адзінства. Аўтар «Прадчування перамен» увогуле, з аднаго боку, імкнецца да дакументальнасці, дакладнага і строгага ўзнаўлення жыццёвых фактаў, а з другога боку — да чыста мастацкіх алегорый, сімволікі (напрыклад, «Дзе ты быў, Робін Круза?»). Але дакументальнасць у мастацтва варта ўводзіць асцярожна, інакш яна адпомсціць за сябе тым, што будзе здавацца... хлуснёй. Яшчэ Чарнышэўскі гаварыў, што падзеі і факты, перанесеныя ў мастацтва ў «сапраўдным сваім выглядзе», робяць уражанне «нацягнутай выдумкі».

Гэтак жа асцярожна трэба абыходзіцца і з увядзеннем публіцыстычных альбо філасофскіх адступленняў. «Может быть,—піша Ул. Кудзінаў,—есть на свете долгий ряд непреходящих явлений. Горы. Травы. Дожди. Форели. Брендуши. Деревья. Косули. Дороги и реки. Сама планета земля. И, наконец, венец всего этого—человеческая доброта» (стар. 31). Не будзем спрачацца аб філасофіі аўтара—што часовае, што неўміручае. Урэшце-рэшт, гэта няважна. Але вось якая справа: слова, прамоўленае ў мастацкім творы «ў лоб», прамалінейна, губляе ўсю сілу свайго эстэтычнага ўздзеяння, становіцца сляпым і пустым. У лесе «всякая неискренность была позади, а привычный мир отношений не имел былого значения. Природа была ясна и понятна, зло—определенно, и я вдруг почувствовал, что все здесь находится на пороге полного понимания живой души, сущего» (стар. 44). Пра якую няшчырасць ідзе размова, якое зло (тым больш—бясспрэчнае) мае на ўвазе аўтар? Навошта гэтыя абстрактныя, «высокія» словы?

А Ул. Кудзінаў—не навічок у літаратуры, ён цудоўна разумее, што мастацтва слова—заўсёды вобразна-канкрэтнае. Які выдатны ў яго паказе «грэнадзёр цяжкой артылерыі» дзед Паўлюк, які пластычны і выразны яго воблік. І якая простая і напоеная вечным сэнсам яго мова: «Ну... а если круг разноцветный (вакол месяца — **Г. Е.**)—быть, значит, дождю. А вот если еще один круг—большой, белый,—тикай. хавайся, сынок, великая буря будет, деревья покладет... А вот зимою—пусть даже мороз в сорок градусов будет.—помолчав сказал дед Павлюк,—но зазвенят на ветру вдруг деревья—жди назавтра дождя» (стар. 39). Сапраўды, у гэтым кароткім расказе дзеда, — больш паэтычнасці і філасофіі, чым ва ўсіх надуманых пошуках аўтара з мэтай наладзіць унутраныя, на яго думку, сувязі паміж цвіценнем папараці і крокамі Нейла Армстронга па Месяцы, папугаем Жакот (Францыя) і вечнасцю, тузінам піва і «Мыслителем» Радэна.

Парушэнне меры шчырасці прыводзіць не толькі да надуманых і наіўных сітуацый, але і да стылістычных прыгожасцяў, унутраны змест якіх пусты і беспрадметны (акварыум параўноўваецца з «огромной речной лилией»), да сентыментальнасці («хлебушко», «картошечка») і проста да выдаткаў стылю: «в этих названиях было исподволь поэтичности»; «законопаченный трезвенник»; «хорошо брешут собаки»; Пришвин «был в первом ряду редкоземельных (?), самых органичных поэтов века»; «собачонка, живая душа, привеченная (?) матросами» і г. д. Аўтар піша, відаць, лёгка і хутка; ён даволі свабодна абыходзіцца са словам. Гэта, вядома, вельмі добра. Але, можа, варта часцей перачытваць напісанае, і тады стане відавочна, што стылістычнае арыгінальнічанне (як інакш назавеш спалучэнне «редкоземельный поэт», якое і вымаўляць цяжкавата, і гучыць яно няўклюдна) не ўпрыгожвае прозу і не пазбаўляе ад штампаў тыпу «жизнеутверждающий талант национального гения», «дыхание безразличного вечного космоса» і інш. Праўда, апошняе магло быць ліквідавана і пры рэдагаванні гэтак жа, як і непісьменныя фразы.

І апошняе. Ул. Кудзінаў—пісьменнік параўнальна малады. І ці так ужо неабходна яму ўбірацца часам у тогу настаўніка і павучальніка? Як думаецца, галоўны недахоп яго кнігі ў тым, што яна дыдактычная: мастацкая ідэя не вынікае непасрэдна з карцін і вобразаў, а з прамых натацый і павучанняў. Ул. Кудзінаў шмат грунтоўных старонак прысвяціў прыродзе, ён заклікае яе берагчы і захоўваць. Нельга не пагадзіцца з аўтарам. Але ж не менш за свет прыроды мае патрэбу ў асцярожнай увазе і свет мастацтва.

**Галіна ЕГАРЭНКАВА.**

Ул. Кудзінаў. «Предчувствие перемен». Апавяданні аб прыродзе. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1972.

# ГЛЯДЗЕЦЬ І БАЧЫЦЬ

1. Элентух — беларускі мастацтвазнаўца — напісаў кнігу для юных чытачоў «Як глядзець карціну».

Няхай чытач не дзівіцца, што мы нагадваем пра выданне, датаванае 1970 годам, падпісана да друку ў самым канцы 1970, яно з'явілася на прылаўках параўнальна нядаўна.

Аўтар расказвае, як разумець жывапіс, прыадчыняе перад чытачом дзверы ў майстэрню мастака.

Ад карціны да карціны вядзе ён сваіх чытачоў. Гаворыць пра тэму, ідэю, сюжэт твора. Разглядае розныя жанры жывапісу. Мяркуе пра кампазіцыю, рытм, перспектыву. Ён піша, у прыватнасці: «Як няма аб'ектыўных мастакоў, так няма і аб'ектыўных гледачоў. Як мастак па-свойму тлумачыць убачаную падзею, так і глядач па-свойму тлумачыць гэтую ж падзею, раскрытую сродкамі жывапісу».

Але, выступаючы за такі суб'ектывізм, аўтар супраць ацэнкі твора па прынцыпе «мне падабаецца» або «мне не падабаецца» Ён імкнецца давесці неабходнасць эстэтычнай пісьменнасці для кожнага чалавека, каб кожны быў падрыхтаваны ўспрыняць карціну як складаны комплекс разнастайных кампанентаў.

Аналізуючы творы мастакоў розных эпох (у тым ліку і мастакоў Беларусі), аўтар вучыць юных чытачоў бачыць праўду жыцця і праўду мастацтва. Ён расказвае гісторыю стварэння разнастайных твораў жывапісу, ілюструючы свае разважанні чорна-белымі і каляровымі рэпрадукцыямі.

Кніга гэтая не прэтэндуе на шырокія абагульненні. Аўтар сам прызнаецца ў заключэнне, што «мабыць, не ўсё ўдалося зрабіць». І ўсё ж матэрыялу для глыбокага роздуму ў кнізе нямала.

**Валерый ДОБКІН.**

І. Б. Элентух. «Як глядзець карціну». Выдавецтва «Народная асвета». (На рускай мове). Мінск, 1970.

### ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

**А. Васілевіч. Пачакай, затрымайся...** Аповесці. Мастак П. Калінін. 1972 г. 480 стар. Тыраж 10 000 экз. Цана 95 кап.

**М. Даніленка. Запаветны акіян.** Аповесць і апавяданні. Мастак Ю. Зайцаў. 1972 г. 248 стар. Тыраж 10 000 экз. Цана 52 кап.

**Дзень паэзіі 1972 г. Зборнік.** Мастакі У. і М. Басалыгі. 244 стар. Тыраж 10.000 экз. Цана 1 руб. 06 кап.

**А. Зарыцкі. Вясеннія званочкі.** Мастак Ю. Пучынскі. На рускай мове. 1972 г. 40 стар. Тыраж 14 000 экз. Цана 6 кап.

**А. Есакоў. Янка Купала і Беларускі тэатр.** Мастак В. Тарасаў. 1972 г. 220 стар. Тыраж 2 000 экз. Цана 85 кап.

**І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі.** Раман. Мастак В. Тарасаў. 1972 г. 312 стар. Тыраж 14 000 экз. Цана 62 кап.

**С. Шушкевіч. Колькі кіпцікаў у кошкі.** Выбранае. Мастак Ю. Зайцаў. 1972 г. 56 стар. Тыраж 75 000 экз. Цана 36 кап.

### ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»

**А. Адамовіч. Маштабнасць прозы.** Урокі творчасці Кузьмы Чорнага. Мастак І. Славянін. 1972 г. 200 стар Тыраж 1 400 экз. Цана 76 кап.

Павел КАВАЛЁЎ



АПАВЯДАННЕ

# ЧУЖАЯ ЖОНКА

УСЯГО ЯКІХ трыццаць мінут ішоў цягнік, на які мы селі, каб ехаць з Друскенікая праз Вільнюс дамоў у Мінск, і вось раптам спыніўся. Першы прыпынак, першая станцыя. Так хутка. Значыць, доўга, ён, гэты цягнік, будзе ісці, калі спыняецца так часта.

Мы з жонкаю глядзелі ў акно і ад няма чаго рабіць пра гэта самае вялі гаворку.

— На тое ён і прыгарадны. Спыняецца табе ля кожнага слупа,—уздыхнуўшы, сказаў я.

— Нічога, гэта толькі да Вільнюса будзе такое, а тады наш вагон прычэпяць да маскоўскага. Адразу навярстаем,— супакоіла мяне жонка.

«Ды яно, уласна кажучы, нам спяшаць няма куды. Адпачылі, падлячыліся...» — не закончыў думкі я, убачыўшы, як са скрыгатам адышлі ўбок дзверы купэ.

Неяк мітусліва, пасоўваючы перад сабою чамадан, да нас уваліўся чалавек.

— Маё дваццаць дзевятае, тут яно? — спытаў ён, і не чакаючы адказу, кінуў свой драўляны, гарбаты кіек на свабоднае ніжняе месца насупраць нас. Кіёк ляснуўся аб сядзенне, пракаціўся з канца ў канец і грымнуўся вобзем каля самага акна.

Мы з жонкаю ўпотай пераглянуліся ды неяк шчыльней пасунуліся адзін да аднаго, уражаныя такой рашучай імклівасцю незнаёмца. А ён — мужчына сярэдніх гадоў, не марудзячы, гупнуў на падлогу каля самых нашых ног свой чамадан і пачаў здымаць кароткае, з аўчынным каўняром паліто. Зняўшы, шпурнуў яго ў дальні кут ніжняга месца і, моўчкі, цяжка, неяк бокам, як мех, паваліўся на сядзенне.

Тут мы заўважылі, што з кішэні пінжака ў чалавека тырчыць закаркаваная металічнай пакрыўкай бутэлька. «Сядае чалавек на сваё месца і пляшку беражэ,— падумаў я.— Відаць, яна яму дужа важная, надта патрэбная».

— Во, сябры праводзілі з санаторыя,— пачаў нібыта сам сабе гаварыць чалавек і, выхапіўшы з кішэні бутэльку гарэлкі, паставіў перад сабою на столік.—Праўда, так заправодзіліся на вакзале... дык гэта... ледзь, гэтае самае, у апошні вагон мяне...

Увайшла праваднiца. Загаварыла да новага пасажыра ў нашым купэ адразу як да знаёмага:

— Ну, то ўжо давайце ваш білет...

І да нас:

— Каб вы толькі бачылі, як яны, гэтыя сяббукі-таварышы панапіваліся і як яго,— паказала яна вачыма на чалавека,— ледзьве паспелі ўвапхнуць у апошні вагон ужо адыходзячага цягніка...

Цяпер нам стала ўсё зразумела: наш спадарожнік толькі-толькі дабраўся з апошняга вагона да свайго, як кажуць, законнага месца.

А чалавек, сеўшы раўней, старанна поркаўся ў сваіх кішэнях, не знаходзячы білета. Затым, ледзьве трымаючыся на нагах, падняўся і ўзяўся за сваё кароткае паліто. Абмацаў усе кішэні і, моўчкі развёўшы рукамі, цяжка сеў на сядзенне.

— Ну, то доўга я стаяць буду тут? — патрабавальна запыталася праваднiца.

Чалавек, седзячы на месцы, зноў пачаў лазіць па сваіх кішэнях. Тупа паглядзеў на свой чамадан, радасна ўхмыльнуўся. Да ручкі чамадана была прывязана авоська з нечым загорнутым у пакамечаную газету. Чалавек з цяжкасцю нахіліўся да авоські, развязаў яе і пачаў выцягваць з яе скрутак.

— Вы бралі білет ці не? — пагрозліва падступілася да яго праваднiца.

— А то не... Вось жа шукаю...— адказаў ён, разгортваючы скрутак і вымаючы я зго закусь: кавалкі хлеба, смажанай рыбы, нарэзаныя скрылі агуркоў.

— Можа агуркі завярнулі ў свой білет? — не сціхала праваднiца.

Чалавек падняў галаву і непаразумела ўтаропіўся ў праваднiцу.

— На пітво ды на гэтае во,— паказала праваднiца на небагатую закусь,— грошы ў вас заўсёды знаходзяцца. А як білет купіць — дык няхай дзядзька, га?

— Чаму дзядзька? — у каторы раз выварачваючы кішэні, запытаў чалавек.— Пра мяне, гэта самае, дзяржава турбуецца, а не нейкі дзядзька. Я хто? Пенсіянер, інвалід. Штогод маю права і на пуцёўку, і на білет. А яна — дзядзька...

— Ну паглядзіце на яго! — звярнулася да нас праваднiца.— Яшчэ і характар паказвае! Паўлітэрку вунь мае, а білета не... Пайду начальніку поезда дакладваць...

Яна пераступіла праз парог і спынілася, чакаючы, як будзе рэагаваць на «начальніка поезда» пасажыр.

— З начальствам, гэта самае, мы заўсёды згаворымся,— спакойна адказаў той і пацягнуўся да бутэлькі. Узяўшы яе ў рукі, здзіўлена ахнуў і зарагатаў:

— Во, глядзі, начальніца, дзе пляшачка, там і білет. А ты вярзеш абы-што. Я, гэта самае, апроч жонкі нікога не падманваю...— І ён падаў праваднiцы білет, які быў прыклеіўся да доння бутэлькі.

Забраўшы білет, незадаволена буркнуўшы нешта, праваднiца выйшла. Мы з жонкаю ўжо не маглі не глядзець, што далей будзе рабіць наш сусед.

— Дык можа пазнаёмімся? — адкаркоўваючы бутэльку загаварыў ён.— Мяне Васіль Пятровіч завуць... А вас? — паглядзеў ён на мяне.

Я азваўся.

— Вось і добранька! — матнуў галавой пасажыр і пацягнуўся за шклянкаю, што стаяла на століку бліжэй да мяне. Я і не зварухнуўся, каб пасунуць пасудзіну бліжэй да суседа.

І толькі Васіль Пятровіч наважыўся наліваць гарэлку ў шклянку, як мая жонка зрабіла нечаканае. Яна імгненна выхапіла бутэльку з рук суседа і сказала адно толькі слова:

— Хопіць!

Васіль Пятровіч ажно знямеў. Ён вырачыў асалавелыя вочы на жонку. Маўчанне зацягнулася. Я чакаў, што зараз адбудзецца нешта непрыемнае і быў гатовы, вядома, на ўсялякае.

— Хопіць ашукваць сваю жонку! — рашуча дадала мая жонка.

— А-а-а...— выдыхнуў сусед.— Гэта цікава... Як жа вас завуць?

Жонка не спяшалася адказваць. Тады падаў голас я:

— Пятроўна, таксама... Станіслава Пятроўна...

— Знацца, нібыта сястра,—сказаў Васіль Пятровіч.

— Нібыта,— вымавіла жонка і, дзёўбаючы доўгім пазногцем па бутэльцы дадала:— У ракавіну, брацік, вылью, а піць болей не дам!

Васіль Пятровіч насупіўся і стаў нязводна глядзець на маю жонку. Глядзеў пільна, здавалася, усю свідраваў сваім злым, п'яным позіркам, стараючыся дабіцца таго, каб яна хоць крышачку збянтэжылася, ну хоць бы адным вейкам паварушыла. Але позірк вачэй немаладой ужо жанчыны быў спакойна-ўраўнаважаны ў рашэнні сваім, бясстрашны.

І раптам адбылося зусім нечаканае. Паварот, як кажуць, на ўсе сто восемдзесят градусаў. Твар Васіля Пятровіча асвятліла лёгенькая хітраватая ўсмешка, вочы засвяціліся дабрынёй.

— А вы, Станіслава Пятроўна, разумная жанчына,— лагодна сказаў ён.— Па вачах бачу... Ох, якая вы добрая...

— Бабуля ўжо... Трох унукаў мае,— не змаўчаў і я, шчыра рады такому павароту дарожнай прыгоды.

Васіль Пятровіч на мае словы пра бабулю і ўвагі не звярнуў, у мой бок нават не глянуў. Ён воч не адводзіў ад жонкі і колькі разоў паўтарыў словы: «Якая вы разумная жанчына». Потым, забыўшыся пра сваю бутэльку, ён пачаў даверліва расказваць, падкрэслена звяртаючыся толькі да маёй жонкі:

— Мяне, гэта самае, у вайну Гітлер пакарэжыў, як маланка дрэва тое ў полі... Ледзьве жывым выцягся. Во,— падняў ён калашыну штаноў на правай назе,— не нага — а бервяно... Рука ледзьве паднімаецца... Так увесь пашкуматаны, як той мех дзіравы...

— Не адзін жа вы такі...— ціха прагаварыла мая жонка.—Вайна... Кожны ж чацвёрты беларус загінуў...

— Дык я што, не разумею? — сказаў Васіль Пятровіч.

— Не бачна, каб разумелі,— націснула на апошнія словы жонка.

Васіль Пятровіч нервова заёрзаў на сваім сядзенні і да кія свайго пацягнуўся. От, думаю, зараз як апярэжа ім. Аж не, кій свой пасажыр наш прыхінуў да сцяны вагона паміж сядзеннем і столікам і, адвярнуўшыся ад нас, нейкі час быў самнасам, думаў.

— Дык я што, і газеты, думаеце, не чытаю. Адны кніжкі, думаеце... бо ў бібліятэцы працую?..— зноў павярнуўся тварам да нас сусед.

Жонка і я маўчалі. Яна, відаць, чакала, калі я ўключуся ў гаворку, стану яе памочнікам. А я, наадварот, бачачы, як уважна слухае яе наш сусед, не хацеў перашкаджаць. Загаварыла ўсё ж яна, мая жонка:

— Што ў бібліятэцы працуеце — мы першы раз ад вас чуем. Работа гэта культурная, харошая, для людзей. І што газеты чытаеце — не сумняваюся. Вось толькі ў галоўным — неяк бокам ходзіце...

— Дык ён жа баліць,— зноў заёрзаў Васіль Пятровіч.

— Баліць, смыліць — дык вы і заліваеце,— рашыў я ўсё ж падказаць, што жонка мела на ўвазе, гаворачы з суседам пра мінуўшую вайну.

Васіль Пятровіч узняў голаў і на нейкі момант застыг. Ну, зрабіўся як нежывы. Нават вачыма не варушыў. Ну, проста аледзянеў. Вочы, аднак, былі ўпераны не ў жонку маю, а на гэты раз у мяне. Я не вытрымаў гэтага яго позірку і адвёў свае вочы ўбок. Гэтага, відаць, хапіла для таго, каб сусед наш зноў ажыў, заварушыўся на сваім месцы загаварыў.

— Дык вось вы пра што?—расцягнуў ён сказ амаль што па складах.

— А яшчэ пра тое, што хваліцеся, быццам жонку ашукваеце...— дадала тут мая жанчына.

Сусед па купэ зноў уперыўся вачыма ў жонку. Хіхікнуў, кашлянуў, прыкрыўшы пры гэтым рот даланёю, галавою захітаў:

— Дык цяпер, гэта самае, яно ўсё зразумела... П'яніца я, прапашчы чалавек, па-вашаму... Давайце пляшку, я сам яе вылью за акно...

Мы, аднак, маўчалі. Было відаць, што чалавек вось-вось яшчэ загаворыць, яшчэ больш шчыра.

— Думаеце, і на рабоце я так? Ды не трымалі б. А так ужо дваццаты год, як у абласной ужо... А жонку адну толькі і падманваю... Гы-гы!.. Праўда, адну толькі... А адвярнуся куды, сябрукоў-інвалідаў, такіх як сам, стрэну, дык і залью... Сапраўды ёсць грэх.

І аціх. Здавалася, усё ясна, усё сказана. І Васіль Пятровіч, відно было, не чакаў ад нас болей ушчування. Ён пасунуўся на сваім сядзенні бліжэй да свайго паліто і, нічога не сказаўшы нам, паваліўся на яго. Ногі падкурчыў пад сябе, вочы заплюшчыў адразу.

У Вільнюсе прамы вагон наш стаяў каля дзвюх гадзін. Мы з жонкаю вырашылі выкарыстаць час і прайсціся па горадзе, ён жа пачынаўся адразу ад вакзала. Прайшлі адну, другую вуліцы, завярнулі ў бакавую кароценькую, потым выйшлі на невялічкую плошчу, у выставачны зал заглянулі, дзе паказваліся пейзажы мясцовых мастакоў.

Час, аднак, ішоў вельмі марудна. Я, баючыся каб не падмануў мяне адзін раз мой гадзіннік, перапытаў, колькі часу на жончыных. Выходзіла, гадзіннікі не падманвалі. І тады мы наважыліся зайсці ў вялікі магазін дзіцячага адзення. Тут мая Станіслава Пятроўна і прымерзла. І ўнучкам і ўнуку яна накупляла столькі, што я нават падлічваць пакупкі збіўся. Але на самым выхадзе з магазіна мяне раптам запыніла прадаўшчыца. Я адразу захваляваўся: няўжо за пакупку каторую жонка не заплаціла. А выходзіла, што тая прадаўшчыца запрапанавала мне загарнуць нашы пакуначкі для зручнасці ў адзін скрутак. Я шчыра падзякаваў і, атрымаўшы скрутак, заспяшаўся з жонкай да вакзала, каб не спазніцца на цягнік.

Поезд Вільнюс — Масква стаяў ужо на першым пуці. Нашага вагона яшчэ не было. Вось-вось яго павінны былі прычапіць. Мы тым часам праходжваліся на пероне ўздоўж саставу, перагаворваліся. Як толькі павярнуліся ісці ў адваротны бок, глядзім, твар у твар сустракаем свайго суседа па купэ. Свежанькі, акуратненькі, ну як шкельца.

— А вось і вы...— загаварыў ён адразу ж да нас. — Як прагуляліся? Я дык храпануў трохі пасля гэтага самага...

— Горад паглядзелі,— сказаў я, не звярнуўшы ўвагу на самакрытыку чалавека пра «гэтае самае».

— А вагон наш зараз прычэпяць...— Васіль Пятровіч быў без ніякай п'янаватасці ў вачах.

Колькі хвілін, што ішлі ў чаканні таго, калі падгоняць і прычэпяць наш вагон, мы ўсе трое хадзілі туды-сюды па вільнюскім пероне. Васіль Пятровіч на нейкую хвіліну адвярнуўся да кіёска і купіў вячэрнюю газету. Падышоўшы да нас сказаў:

— У мяне, бібліятэкара, ёсць своеасаблівае хобі. Збіраю газеты... ну па аднаму экземпляру ўсіх, якія дзе існуюць. І ведаеце, колькі іх маю ўжо?

Мы прыпыніліся, запытальна паглядзелі на Васіля Пятровіча.

— Каля пятнаццаці тысяч! — урачыста сказаў ён.— Гэтая, вільнюская, здаецца, нядаўна пачала выходзіць. Вось купіў экземпляр для праверкі, ці ёсць яна ў мяне.

— Дзе ж вы трымаеце такую колькасць газет? — здзівілася жонка.

— Вядома, у бібліятэцы. Я ж сам загадчык... Месца знайшоў,—вінавата растлумачыў Васіль Пятровіч.— Дачурка ў мяне на факультэце журналістыкі вучыцца. Дык гэта ёй... ну падарунак ці як там — сюрпрыз к заканчэнню рыхтую...

Мы з жонкаю цяпер ужо зусім пацяплелымі вачыма глядзелі на Васіля Пятровіча. Ад тае стрэчы з п'яным пасажырам, які ўваліўся-ўсунуўся да нас у купэ, нічога не заставалася, мінала, нібыта сон той.

А яшчэ праз колькі часу мы сядзелі ў сваім купэ. За гутаркай не заўважылі, як поезд наш, мінуўшы Маладзечна, падышоў да Мінска.

Жонка мая пачала глядзець у той куток, куды яна затаркнула суседаву паўлітэрку. Нам жа выходзіць у Мінску, а Васіль Пятровіч едзе далей, да Масквы, а там у яго яшчэ перасадка. Дык жа трэба аддаць бутэльку, няхай цяпер робіць з ёю што хоча.

Бутэлькі, аднак, на месцы не было. Жонка спытала вачыма ў мяне, не ведаеш, маўляў, дзе яна запраторылася ці мо ты перахаваў яе куды. Я толькі плячыма пацiснуў. А твар у Васіля Пятровіча не тое што ззяў, а выяўляў хітраватую задаволенасць. Ён маўчаў, хоць вочы яго яўна гаварылі: «Я ўсё, усё ведаю, пра што вы зараз, суседзі мае, думаеце».

Я пачаў ладкаваць такія-сякія дарожныя рэчы ў свой чамаданчык і гэтым часам абмацаў увесь куток, куды жонка стаўляла чужую паўлітэрку. Нават пасцелю адгарнуў, падушку перакінуў на другі край сядзення. Бутэлькі не было.

— Не шкадуй, як кажуць, згубленага,— паволі загаварыў Васіль Пятровіч і падаўся пад купэйны столік, выцягнуў адтуль парожнюю пляшку. Узняў яе.— Вось яна, галубіца. Толькі я яе апаражніў...

— Адзін? — запытаўся я.

— Адзін...

Жонка мая ўхмыльнулася, хто ж гэта мог адзін выпіць паўлітэрку ды каб на ім не заўважна было? Гэтую ўсмешку прыкмеціў Васіль Пятровіч і зноў, як гэта было на самым пачатку, стаў глядзець толькі на жонку. Нейкі час маўклівa перамоўка ішла паміж імі, але яснасці не дала. І тады ўжо мая жонка прама спытала:

— Самі вылілі?

— А навошта мне памочнікі?

— І не шкада было?

— Не... Ды і выліў я ў графін праваднiцы. На яе патрэбы, гэта самае... Ведаеце, я сапраўды падмануў на гэты раз сваю жонку. Не ўтрымаўся. Сябрукі... Таксама інваліды... А мне ж піць катэгарычна не можна. Вось сарваўся, нават з сабою ў дарогу прыхапіў, сяброў паслухаўся... А тут вы... О, каб вось так стрымлівалі ўсе чужыя любога з выпівох...

Поезд падыходзіў да Мінскага вакзала.

# ІЛЬЯ ДАНІЛАВІЧ ГУРСКІ

12 жніўня пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр вядомы беларускі пісьменнік, член КПСС з 1919 года, заслужаны дзеяч культуры БССР Гурскі Ілья Данілавіч.

Ілья Данілавіч Гурскі нарадзіўся 14 красавіка 1899 года ў вёсцы Замосце Уздзенскага раёна Мінскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. Рана пачаў ён сваю працоўную дзейнасць, спачатку пастухом у вёсцы, пасля качагарам на Абухаўскім заводзе ў Петраградзе. Там І. Д. Гурскі далучаецца да рэвалюцыйных рабочых, удзельнічае ў бальшавіцкіх мітынгах, змагаецца ў радах Чырвонай гвардыі ў дні Кастрычніцкай рэвалюцыі. З чэрвеня 1919 года І. Д. Гурскі — член Камуністычнай партыі. Па закліку Петраградскага губкома РКП(б) у кастрычніку 1919 года ён накіроўваецца ў рады Чырвонай Арміі, прымае ўдзел у баях на Паўднёвым і Заходнім франтах.

Пасля дэмабілізацыі з арміі ў 1924 годзе Ілья Данілавіч працуе ў Галоўліце БССР і адначасова вучыцца на рабфаку, пазней ва універсітэце і аспірантуры Акадэміі навук БССР.

Доўгі час І. Д. Гурскі быў сакратаром партарганізацыі Акадэміі навук і Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва».

Літаратурную дзейнасць Ілья Гурскі пачаў у 1928 годзе ў жанры драматургіі. Яго п'есы, «Качагары», «Новы горад» — творы аб станаўленні рабочага класа Савецкай Беларусі — з поспехам ішлі на сцэнах беларускіх тэатраў.

У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны І. Д. Гурскі накіроўваецца ў дзеючую армію. У франтавых умовах ён рэдагуе газету «За свабодную Беларусь» і часопіс «Партызанская дубінка» — органы друку, якія шырока распаўсюджваліся ў партызанскіх атрадах.

Плённай была творчая і грамадская дзейнасць Ільі Гурскага пасля вайны. На працягу многіх гадоў ён з'яўляецца галоўным рэдактарам часопіса «Беларусь», членам прэзідыума Саюза пісьменнікаў БССР. Адна за адной выходзяць кнігі пісьменніка, заваёўваючы любоў і прызнанне чытачоў. У рамане «У агні» Ілья Гурскі усlavіў неўміручы подзвіг беларускага народа ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі. Да апошніх дзён жыцця працаваў пісьменнік над чатырохтомным творам аб Кастрычніцкай рэвалюцыі і станаўленні Савецкай улады ў Беларусі. Гэтыя творы з'яўляюцца значным укладам у развіццё беларускай савецкай літаратуры. Ілья Данілавіч быў шчырым і чулым таварышам, клапатлівым выхавацелем моладзі.

Творчая і грамадская дзейнасць І. Д. Гурскага была высока ацэнена Савецкім урадам. Ён быў узнагароджаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, двума ордэнамі «Знак Пашаны», медалямі.

Памяць аб верным сыне Камуністычнай партыі, вядомым беларускім пісьменніку І. Д. Гурскім назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**П. М. Машэраў, Ф. А. Сурганаў, Ц. Я. Кісялёў, А. Н. Аксёнаў, А. Т. Кузьмін, А. А. Смірноў, У. Ф. Міцкевіч, У. Е. Лабанок, І. Я. Палякоў, М. Н. Палазаў, Л. Г. Кляцкоў, У. І. Падрэз, Н. Л. Сняжкова, С. В. Марцалеў, С. Я. Паўлаў, К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва), П. У. Броўка, І. А. Брыль, Д. Я. Бугаёў, Г. М. Бураўкін, В. У. Быкаў, В. В. Барысенка, А. С. Грачанікаў, П. Н. Кавалёў, М. І. Калачынскі, К. Ц. Кірэенка, Ц. В. Крысько (Васіль Вітка), А. А. Куляшоў, А. М. Кулакоўскі, А. А. Лужанін, М. Ц. Лынькоў, А. Я. Макаёнак, І. П. Мележ, А. Х. Асіпенка, П. Е. Панчанка, М. Т. Паслядовіч, П. С. Пестрак, Я. І. Скурко (Максім Танк), М. Г. Ткачоў, І. П. Шамякін, А. І. Якімовіч.**



## ГОРКІЯ ПРАВАДЫ

Душа баліць і сэрца плача,
Не заглушыць мае тугі.
Ніколі больш Вас не пабачу,
Зямляк мой шчыры, дарагі.

Не ўбачыце з магілы цёмнай
Вы красак новае вясны.
Не пройдзем з Вамі каля
Нёмна
Па сцежках ціхенькіх лясных.

І толькі тым суцешан трошкі,
Што тут сябры стаяць радком,
Што Вы ў народ знайшлі
дарогу
Праўдзівым словам і радком.

У вашых творах, добрых
справах,
У нашай памяці Вам жыць.
Няма мяжы высокай славе,
Няма нідзе жыццю мяжы.

**Антон БЯЛЕВІЧ.**

## ЧАЛАВЕКАЛЮБ

ВЕСТКА, раптоўная і жахлівая, раніла сэрца. Памёр Ілья Данілавіч Гурскі... З нашых радоў выбыў нястомны працаўнік літаратуры, камуніст-змагар, старэйшы паплечнік і друг.

Кажуць: у характары кожнага пісьменніка адна з рыс павінна быць самай адметнай, выразнай, моцнай. У Ільі Гурскага такой рысай была любоў да людзей — непасрэдная, шчырая, гарачая, невычарпальная, як люстраная крыніца. Сын бедняка з беларускай вёскі, ён рана спазнаў нядолю людскую, адчуў, чаго нестае працоўнаму люду, каб жыць шчасліва, і як змагацца за лепшы лёс гаротных. Дарогі павялі яго ў Петраград, у рабочае асяроддзе абухаўцаў, з якімі ён сустрэў — не сведкам, а актыўным удзельнікам — Кастрычніцкую рэвалюцыю. Пралетарскі гарт стаў гартам і любві да чалавека.

Ілья Гурскі пранёс гэтую любоў праз полымя грамадзянскай вайны. З ёй быў на рыштаваннях першых пяцігодак, дзе ішло станаўленне яго таленту празаіка і драматурга. А потым Айчынная вайна... Зноў на рукаве ваеннай гімнасцёркі зорка камісара... Зноў армейскія будні, трывогі, бяссонніцы. Праца ў рэдакцыях — для фронту і партызан, а ў перапынках — крыху «для сябе», для ажыццяўлення новых творчых задум. І ўсё гэта разам — у імя міру, шчасця, сонечнай будучыні савецкага чалавека.

Пасляваенны час — самы плённы ў творчасці пісьменніка. І. Гурскі выступае як апавядальнк і раманіст. Увага яго прыкавана да самага важнага ў жыцці — да таго, што адбылося толькі ўчора, і да таго, чыё водгулле жыве ў сэрцы. Трэба быць чалавекам выключнай працавітасці, каб тыднямі, месяцамі капацца ў архівах, перагортваць стосы папер, адшукваючы «фактуру» новай кнігі... Так нарадзіўся «Вецер веку» — раман, дзе хранікальнасць падзей азорана іскаркамі пісьменніцкай душы, якая любіць творцаў гісторыі, мужных, гераічных людзей.

Такім шчырым, чулым да людскіх клопатаў, спраў Ілья Гурскі быў і ў жыццёвай паўсядзённасці. Не аднаму з малодшых сяброў, як і мне, ён даў пуцёўку ў дарогу, не аднаму дапамог заняць сваё месца ў літаратурным страі. І ў гэтым яшчэ раз праявілася яго бязмернае чалавекалюбства.

Цяжка ўсведамляць, што Ільі Гурскага ўжо няма сярод нас. Але ў горкую хвіліну развітання з ім верыцца: ён будзе сярод жывых, будзе жыць у тым, што здзейсніў за свой век у імя савецкіх людзей, у імя партыі, народа, Радзімы.

**Міхась КАЛАЧЫНСКІ.**

## БЫВАЙ, ІЛЬЯ ДАНІЛАВІЧ!

Мы назаўсёды развіталіся з Ільём Данілавічам Гурскім — чалавекам, якога я ведаў на працягу амаль 40 гадоў жыцця. З даўніх студэнцкіх часоў, калі я праходзіў вытворчую практыку ў газеце «Літаратура і мастацтва», дзе рэдактарам быў Ілья Данілавіч, і да самых апошніх, сённяшніх дзён мне пашчасціла крочыць па жыццёвых дарогах поплеч з гэтым выдатным камуністам, харошым літаратарам, сціплым са сціплых кіраўніком, чалавечным Чалавекам і старэйшым таварышам.

Сам Ілья Данілавіч ніколі аднак не падкрэсліваў гэтай сваёй адметнасці, ён ніколі не ганарыўся сваімі званнямі і пасадамі, быў заўжды як роўны з роўнымі, і нас, маладзейшых, жартам называў «старымі».

Ніколі не забуду першых пасляваенных гадоў сумеснай працы ў апараце Саюза пісьменнікаў, калі Ілья Данілавіч быў доўгі час нязменным кіраўніком нашай пісьменніцкай партарганізацыі. З ім я заўсёды раіўся, і заўсёды хацелася з ім раіцца не толькі па абавязку, а і па сардэчнасці, з якою ён умеў жыць і працаваць. Ён выслухае цябе і кожны раз параіць: «Стары, не хвалюйся», «Стары, не спяшайся». І заўсёды ён меў рацыю, бо ягонае, здавалася б, флегматычнае стаўленне, не толькі дапамагала працаваць, спакойна разбірацца ў справах складаных, але і жыць актыўным грамадскім і творчым жыццём.

І вось развітанне. Не ад старасці, ад няўмольнай, цяжкай і каварнай хваробы адышоў ад нас Ілья Данілавіч Гурскі.

З болем у сэрцы мы гаворым яму наша апошняе бывай.

**Павел КАВАЛЁЎ.**

## У ЧАСІНУ СМУТКУ

*І. Д. ГУРСКАМУ*

Заўжды хвалюешся,
як прыгадаеш вас,
Старыя змагары, старыя
камуністы,
Якія з партыяй свой лёс
звязалі ў тыя дні,
Калі яе рады яшчэ ўмацоўваў
Ленін.
Вас мала ўжо, Вас з кожным
годам менш і менш.
І ў сумны час, калі астатнюю
пашану
Сівому ветэрану мусіш
аддаваць,
Які калісь пад грозны гром
гармат «Аўроры»
Байцом Чырвонай гвардыі
ішоў у бой,
Тады нястрымна самі слёзы
падплываюць,
Гаручыя, буйныя, да тваіх
вачэй.
І самі хіляцца жалобныя сцягі
Ніжэй у гэткую маркотную
хвіліну.
І самі словы роздуму злятаюць
з вуснаў:
— Бывай, навек, бывай,
старэйшы наш таварыш,
Вялікага Кастрычніка салдат,
з табой
Мы трацім сёння штось такое
дарагое,
Якое можна толькі сэрцам
ацаніць.
І слова мы даем — давеку
ў нашых сэрцах,
У нашых думах, нашых
справах берагчы
Усё да кропелькі, што ты
прынёс, таварыш,
Адтуль з тых дзён, якія
ўзрушылі ўвесь свет.

**Аляксей ЗАРЫЦКІ.**

14.8.1972.

## ПАМЯЦІ Л. БАРАЗНЫ

15 жніўня 1972 года трагічна загінуў член Саюза мастакоў БССР Баразна Леанід Цімафеевіч.

Баразна Леанід Цімафеевіч нарадзіўся 4 снежня 1928 года ў вёсцы Новае Сяло Талачынскага раёна ў сям'і селяніна. У 1955 годзе скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, а ў 1967 годзе — мастацкі факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

На працягу многіх гадоў Л. Баразна працаваў мастаком у мастацка-вытворчых майстэрнях Гродна і Мінска, з 1967 г. па 1970 год быў галоўным мастаком Мастацкага фонду БССР.

Многа сіл і энергіі Л. Баразна аддаў справе вывучэння беларускага народнага мастацтва. Ён сабраў вялікі матэрыял па беларускім народным касцюме, падрыхтаваў да выдання альбомы «Беларускія народныя касцюмы», «Беларускі арнамент Палесся», «Арнаменты Гродзеншчыны», «Графіка Францыска Скарыны».

Светлая памяць пра Леаніда Цімафеевіча Баразну назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Група таварышаў.**

●

Калектыў Мінскага мастацка-вытворчага камбіната з глыбокім жалем паведамляе аб трагічнай смерці члена Мастацкага фонду БССР, члена Саюза мастакоў БССР БАРАЗНЫ Леаніда Цімафеевіча і выказвае спачуванне яго сям'і і блізкім.

●

Праўленне Саюза мастакоў БССР, партыйнае бюро і мясцовы камітэт глыбока смуткуюць з прычыны трагічнай смерці члена Саюза мастакоў БССР БАРАЗНЫ Леаніда Цімафеевіча і выказваюць спачуванні яго сям'і, родным і блізкім.

# ДЗЯДЗІНЕЦ БЯРЭСЦЕ... УНІКАЛЬНЫЯ ЗНАХОДКІ

НАМЕСНІК начальніка абласнога аддзела культуры Брэста Міхаіл Васільевіч Лукашук прапанаваў: «Хочаце, паглядзім на старажытны Брэст?..»

І вось мы на мысе, дзе левы і правы рукаў Мухаўца ўпадаюць у Заходні Буг. На слупе — дошчачка з надпісам: «Дзядзінец Бярэсце». Праходзім у катлаван, частка якога пад велізарным драўляным навесам. А там, у глыбіні, — горад! Так, так! Горад!

...Ідзем па вуліцы, якая ўзнімаецца крыху ўгару, па вымашчанай бярвеннямі маставой. Па абодва бакі ад яе, прыціснутыя адна да адной, звернутыя тыльным бокам да вуліцы, — драўляныя пабудовы... Амаль у кожнай будыніне — вялікая глінабітная печ, а дзе-нідзе і цагляная. Падлога паслана шырокімі дошкамі, пакладзенымі на лагі. Між дамамі ўсё вымашчана дошкамі або тонкімі бярвеннямі.

Па гэтай вуліцы хадзілі і ездзілі на калёсах берасцяне многа стагоддзяў назад. Магчыма, менавіта адсюль пачыналі шлях абозы з таварамі для абмену з яцвягамі, літвінамі, мазаўшанамі... Глядзім і вачам сваім не верым! Нібы і не ляжалі пабудовы пад пластам зямлі столькі вякоў!..

Калі высветлілі каштоўнасць раскопак, вырашылі не паглыбляцца далей (хоць ёсць меркаванні, што ў культурным пласце, які застаўся пад горадам, ёсць рэшткі збудаванняў і рэчаў пачатку X і XI стагоддзяў). Вырашылі захаваць усе драўляныя збудаванні, каб у будучым стварыць павільён-музей старажытнага горада. Малады вучоны Юрый Віхраў з бацькам, акадэмікам, знайшоў спосаб захавання выкапнёвай драўніны. Пад кіраўніцтвам Юрыя зрабілі кансервацыю. Драўніну насычаюць феноласпіртамі, выцясняючы з яе ваду, потым прасушваюць, і яна робіцца цвёрдай і трывалай. Да Берасцянскага гарадзішча выкапнёвую драўніну ў нас яшчэ не захоўвалі такім надзейным спосабам і ў такіх маштабах.

Кіруе археалагічным атрадам Пётр Фёдаравіч Лысенка, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута



Берасцянскі арнамент на гаршку. Ці ж не праўда, што выраб вельмі падобны да сучасных?!.



Першы буквар... Унікальны грабеньчык, знойдзены на раскопках.
Фота аўтара.

гісторыі Акадэміі навук БССР. Яго памочнікі — Таццяна Мікалаеўна Каробушкіна і Іван Якаўлевіч Бібікаў.

Убачыцца з Пятром Фёдаравічам на працягу дня — справа складаная. Ён на матацыкле імчыць то з горада на раскоп, то з раскопу ў горад... Застаць яго можна толькі да пачатку работы ля краязнаўчага музея. Тут, на лавачцы пад ліпамі, Пётр Фёдаравіч Лысенка і навуковы супрацоўнік Брэсцкага краязнаўчага музея Міхаіл Іванавіч Алексяюк — вялікі знаўца гісторыі Брэстчыны, калекцыянер і збіральнік старажытнасці, бліжэйшы памочнік Пятра Фёдаравіча і кансультант — збіраюцца на свой «малы вучоны савет», каб абмеркаваць справы на раскопе... Тут давялося пачуць гісторыю і перадгісторыю пошукаў старажытнага Брэста.

Існуе легенда аб заснаванні і ўтварэнні Брэста.

Нібыта вёз купец на калёсах свой тавар у Літву ды завяз у багністых балотах. Не выбрацца. Пачаў выдзіраць бярозту і засцілаць ёю гаць. А калі назад з Літвы вяртаўся, пабудаваў на гэтым месцы капліцу. Да той капліцкі, як да святога месца «на бярэсце», пачалі з'язджацца людзі. Месца гэта было лёгка ўмацаваць ад ворагаў. Кругом прыродныя абарончыя равы (рукавы Мухаўца). І пачалі асядаць тут людзі, пачалі будаваць горад «на бярэсце»...



Вось яна, хата старажытнага Бярэсця!.. Добра відаць дваровая вымастка і праём для дзвярэй.

Адзін з самых заходніх і старажытных гарадоў Беларусі (1019 год) Брэст даўно прыцягваў вучоных. Але — без поспеху. Бо ў час пабудовы ў 1836 годзе Брэсцкай крэпасці так змяніўся старажытны рэльеф, што цяжка было, нягледзячы на наяўныя звесткі, вызначыць, дзе першапачаткова знаходзіўся горад. Давялося старанна вывучыць змены рэльефа. Пры супастаўленні атрыманых дадзеных з планамі на адной з гравюр XVII стагоддзя было выказана меркаванне, што дзядзінец горада знаходзіцца на мысе ўпадання двух рукавоў Мухаўца ў Буг, а горад — на востраве. Гэта меркаванне было на ўзроўні адкрыцця.

У 1968—69 гадах пры абследаванні мясцовасці былі знойдзены чарапкі керамікі — спецыялісты датавалі іх XI—XII стагоддзямі. На месцы знаходак заклалі шурф і... выявілі культурны пласт ад 3 да 5 метраў, у якім добра захаваліся рэчы арганічнага паходжання. Знайшлі кераміку X—XI стагоддзяў. На жаль, у гэтым месцы далей капаць было немагчыма: перашкаджала дамба — яе давялося б узрываць. Таму ў 1970 годзе паблізу заклалі новы раскоп.

Унікальная захаванасць знойдзеных на гэтым месцы збудаванняў і рэчаў робіць гэты раскоп вельмі каштоўным і цікавым.

Дамы, зрубленыя сякераю ў просты вугал сем—восем стагоддзяў назад захавалі 6, 8 і нават 12 вянкоў! Такой захаванасці не знаходзілі ні ў адным раскопе сярэдневяковых гарадоў старажытнай Русі. На сценах некалькіх дамоў ёсць меткі-насечкі. На ніжнім вянку адна, а на кожным наступным на адну больш і так да 12 насечак. Можна дапусціць, што з-за цеснаты ў горадзе зрубы складваліся ў лесе, потым па насечках складваліся на загадзя падрыхтаваным месцы.

На многіх зрубах ёсць дзвярныя праёмы з прыкметамі таго, што тут былі дзверы і адчыняліся яны ў сярэдзіну. Дзвярныя праёмы — з'ява таксама незвычайная. Да гэтага часу дзвярныя праёмы ў збудаваннях ранняга сярэдневякоўя не сустракаліся. Знойдзены і рэшткі дзвярэй, якія складаліся з некалькіх або з дзвюх дошак (усе дошкі, знойдзеныя ў раскопе, коланыя таparом), якія злучаліся паміж сабой шыпамі «ў ластаўчын хвост». З коланых дошак або тонкіх бярвенняў рабіліся і насцілы паміж дамамі. Цесната ў горадзе была неверагодная. Дваравы насціл вельмі хутка зарастаў. Паверх яго насцілаўся новы насціл. У некаторых месцах знойдзена некалькі ярусаў такіх насцілаў. Вельмі хутка зарасталі і старэлі ў такой цеснаце і будынкі. Верхнія вянкі зносіліся, а на астатніх двух-трох вянках, якія заставаліся ў зямлі, ставіліся новыя збудаванні. У раскопе многа прыкладаў такіх шматярусных збудаванняў.

Дахі ў дамах не захаваліся, знойдзены толькі рэшткі мацаванняў-какошыны. (На какошыну ўкладвалася рабром дошка, у якую ўпіраліся дошкі даху). Дах, мяркуецца, быў драўляны, двухскатны...

Частка знойдзеных рэчаў увайшла ўжо ў экспазіцыю Брэсцкага краязнаўчага музея. Мяркуючы па знаходках, старажытныя жыхары горада любілі ўпрыгожваць рэчы дэкаратыўным малюнкам-арнаментам. Яны рабілі прыгожыя грабеньчыкі з рознага дрэва і косці, выразваючы на іх геаметрычны арнамент. Падобным арнаментам упрыгожвалі і касцяныя дзяржанні нажоў.

Знойдзены каменныя формачкі для вытворчасці падвескаў. А сведчанняў таго, што мясцовыя модніцы цікавіліся такімі ўпрыгожаннямі, — мноства прывазных упрыгожанняў, накшталт фібул заходнелітоўскага тыпу XII стагоддзя. Знойдзены, напрыклад, вельмі тонкай работы білонавы колт. Каляровыя шкляныя браслеты прывозілі з Кіева і Полацка. (Браслеты насілі гараджанкі — у вёсках іх не насілі. Мода на браслеты была толькі да першай паловы XIII стагоддзя). Прывозілі таксама і рэчы культу—іконы, янтарныя крыжы і г. д. Гэтыя знаходкі гавораць нам і аб тым, што берасцяне падтрымлівалі гандлёвыя сувязі з іншымі княствамі.

Цікавых знаходак у раскопе нямала. Знайшлі, напрыклад, прыстасаванне для напісання па бяросце або васковай паперы — «пісала». Але самая цікавая знаходка, канечне ж, — вельмі добра захаваны самшытавы грабеньчык з выразанай на ім з двух бакоў азбукай. Да гэтага грабеньчыка сярод пісьмовых дакументаў старажытнай Русі азбука знойдзена толькі ў Любічы на шыфернай прасніцы (XI ст.) і ў Ноўгарадзе — берасцяная грамата хлопчыка Анфіма і яго сябра (пачатак XIII стагоддзя), ды драўляная дошчачка з азбукай (канец XIII стагоддзя). Азбука на Берасцянскім грабеньчыку накрэслена кірыліцай. На адным баку ад буквы А да Е, на другім ад Ж да Л. Па накрэсленню літар вучоныя адносяць гэты алфавіт к канцу XII стагоддзя або самаму пачатку XIII стагоддзя.

Большую частку знаходак Таццяна Мікалаеўна і Пётр Фёдаравіч паказалі ўжо не ў музеі, а ў драўляным складзе, які пабудаваны на тэрыторыі катлавана раскопак. Прыбеглі сюды «папераджываць» і хлопцы-школьнікі — галоўныя памочнікі і асноўныя работнікі ў палявы перыяд работ на Берасцянскім гарадзішчы. (Многія з школьнікаў працуюць тут з самага першага дня работ). Гэта яны выцягвалі на «свет божы» кожную знаходку, старанна і асцярожна счышчаючы з яе пэндзлікам або шчоткай адвечны пыл!

...Вось два цэлыя сасуды з задымленай керамікі і некалькі глыбокіх невялікіх місачак з малюсенькімі ручкамі. Міскі складзены з кавалкаў, але форма выразна чытаецца. Расшыраныя кверху на невысокім паддоне, яны завяршаюцца тоненькім абадком. Знойдзена зусім цэленькая гаршкападобная гліняная пасудзіна, на якую нанесены зігзагападобны дэкаратыўны арнамент. Формы і дэкор такія знаёмыя, блізкія да сённяшніх. Калі паставіць сённяшнія вырабы з Пружан — гаршчок або міску з ручкай побач з гэтымі сярэдневяковымі, іх не адрозніш, так яны падобныя!.. Керамічныя формы аказаліся вельмі ўстойлівыя (нездарма, відаць, так горача дамагаўся мяне пераканаць народны майстар з Пружан Антон Такарэўскі ў тым, што яго кераміка многа вякоў назад зачалася. Бо, маўляў, дзед ягоны ўсіх родзічаў аж да дваццатага калена ў кнігу запісваў, і выходзіла, што яны спрадвеку ўсе займаліся ганчарствам).

Велізарная колькасць керамічных чарапкоў, кавалкаў гаспадарчых пасудзін і цэлых сасудаў, знойдзеных на раскопе, сведчаць аб развіцці ў Бярэсці ганчарнага рамяства.

Ведалі старажытныя берасцяне і сакрэты апрацоўкі металаў. Яны ўмелі кляпаць, паяць меддзю і нават лудзілі металічныя рэчы. Знаходкі сярпоў, кос, нарогаў гавораць аб тым, што старажытныя берасцяне былі не толькі рамеснікамі, але і займаліся сельскай гаспадаркай. Аб гэтым жа сведчаць і такія рэчы, як ступа нажная (драўляная), жорны (каменныя), сохі (драўляныя) і г. д. Аб высокім узроўні кавальскага рамяства сведчаць трубчатыя замкі складанай і тонкай будовы.

Былі берасцяне і воінамі. Знойдзена многа рэчаў узбраення (стрэлы для арбалета, коп'і, бранябойныя стрэлы, пласцінчатая бронь). Былі яны і будаўнікамі. Аб гэтым сведчаць знойдзеныя ў раскопе долаты, свярдзёлкі, нажніцы, сякера, кавальскі прабойнік і рэчы амуніцыі конніка (стрэмя, шпоры).

Займаліся берасцяне і вырабамі са скуры. Знойдзены абрэзкі скуры, абутак, футаралы, чахлы. Абутак вышывалі шарсцянымі ніткамі. Узоры вышыўкі — ад самага простага крыжыкам да складанага — шырокай палоскай арнамента.

Асабліва многа знаходак з дрэва. З яго выраблялі большую частку гаспадарчых і бытавых рэчаў. Гэта розныя рыдлёўкі і лыжы, цягі ад кроснаў, восі, спіцы ад колаў, пранік для бялізны, вясло, лесвіца, высечаная з цэльнага дрэва, точаныя міскі, талеркі...

А работы тут яшчэ многа. Зусім нядаўна за бастыёнам, у новым шурфе, знайшлі валы, умацаваныя драўлянымі клецямі. Непадалёку ад раскопу — у яме ад выбуху — знойдзены каменныя рэшткі—можа сярэдневяковы замак?.. Хутка, відаць, пра гэта даведаемся.

Раскопкі працягваюцца. З-пад зямлі вызваляюцца ўсё новыя і новыя знаходкі, якія расказваюць нам іншы раз значна больш, чым летапісы, асабліва пра сацыяльна-эканамічнае жыццё народа, пра яго культуру. І хто ведае, можа галоўная знаходка, якая раскрые нам самыя цікавыя старонкі жыцця берасцян ранняга сярэдневякоўя, яшчэ не знойдзена...

А пакуль галоўны клопат — захаваць усе знаходкі, закансерваваць усё знойдзенае ў раскопе дрэва. Мы здолеем тады мець унікальны музей старажытнага горада.

**Браніслава ЛОБАН,**
**наш спец. кар.**

Брэст — Мінск.

# ПРЫЗВАННЕ—КУЛЬТРАБОТНІК

...Вечарам Іван выйшаў на вясковую вуліцу, прысеў на лавачцы насупраць дома, у якім стаў на кватэру, расцягнуў мяхі свайго баяна, зайграў «По долинам и по взгорьям». Каля лаўкі хутка пачалі збірацца дзеці, заглянулі і дарослыя. «Хто гэта да Мар'і ў госці прыехаў?» — перашэпталіся жанчыны. «Не госць я тут. Буду ў вас дырэктарам Дома культуры...» — адказаў Іван. А сівабароды дзядуля, Пётр Раманоўскі, прысеў побач з баяністам, пахваліў яго за ігру, кашлянуўшы ў кулак, загаварыў: «Калісь у нашым чырвонагвардзейскім атрадзе быў адзін такі, як ты, сынок, малады музыка з гармонікам. Як урэжа, бывала, дык ногі самі ішлі».

Праз паўгода, калі ў доме культуры будзе ўжо сфарміраваны калектыў мастацкай самадзейнасці, а на афішным шчыце кожны месяц пачнуць з'яўляцца абвесткі аб вечарах адпачынку і тэматычных вечарах, калі пра здольнага баяніста загавораць нават у раённым цэнтры, Іван успомніць таго гаваркога дзядулю, былога чырвонагвардзейца, заслужанага калгасніка, удзельніка трох войнаў і запросіць яго, а таксама першага старшыню калгаса пенсіянерку Раісу Раманаўну Кіжык на калгасны «агеньчык» у гонар ветэранаў. Расчуленыя ўвагай, гэтыя сціплыя людзі са слязьмі на вачах будуць успамінаць сваю маладосць, раскажуць, як адмятаючы пагрозы кулакоў, не зважаючы на стрэлы кулацкіх абрэзаў, стваралі калгас, аднаўлялі яго ў нялёгкія пасляваенныя гады. І многія з маладых хлебаробаў будуць потым гаварыць паміж сабою: «Вось, аказваецца, якія ў нашай вёсцы людзі жывуць! Міткевіч году не пабыў, а выведаў усё».

Для некаторых было сенсацыяй, што Іван Міткевіч праз месяц пасля прыняцця спраў у СДК стварыў там нядрэнны харавы калектыў і агітбрыгаду і ўжо выступіў з канцэртамі не толькі ў сваім калгасе, але і выязджаў у суседнія вёскі. Лічылася, што ў Новых Дарогах моладзі няма, а дарослыя занадта заняты работай, каб праявіць цікавасць да клуба і яго спраў. А вось, аказваецца, праявілі, калі ўбачылі чалавека жывога, ініцыятыўнага.

...Мы сядзім у пакойчыку дырэктара СДК. Чыста, утульна. На століку—тэлевізар, у кутку на крэсле—магнітафон (перад тым, як зайсці сюды, Іван паказваў толькі што набытыя,ззяючыя нікелем мікрафоны, устаноўленыя ў зале—ішла падрыхтоўка да канцэрта ў гонар пераможцаў спаборніцтва па веснавой сяўбе). Ён расказвае аб сваёй рабоце:

— Пакуль што адзін і за дырэктара, і за мастацкага кіраўніка. Работы шмат, за будынінай клуба таксама патрэбен нагляд. Спадзяюся, што райаддзел культуры прышле мастацкага кіраўніка, хаця яны пакуль што нічога не абяцаюць. Цяжкавата з кадрамі. Стараюся трымаць сувязь з актывістамі дома культуры. Настаўніца Ніна Кухмар, бібліятэкарка Ліда Ямачка, лабарантка Валя Сямчук, трактарыст Рыгор Сулімчык, акушэрка Валянціна Палаўчэня... Усе яны мае шчырыя і добрыя памочнікі. Рыгор—саліст, любіць беларускія і рускія народныя песні. Ніна ў нас вядучая, добра чытае вершы. Летась мы далі шмат канцэртаў і ў сябе, і на выездзе. У нас вялікая зала. А калі вечар адпачынку з канцэртам—яблыку ўпасці няма дзе. Асабліва любяць хлебаробы нашы тэматычныя вечары. Вось толькі мала ёсць кароткіх драматычных твораў, каб можна было стварыць невялікую драматычную групу...

А вось што сказаў пра новага дырэктара старшыня калгаса Уладзімір Іванавіч Івашка:

— Хлопцам гэтым мы задаволены. Ведаеце, з яго прыходам ажыў дом культуры. Нядаўна прыязджаў сюды Іванаў бацька, выслухаў нас і ледзь не заплакаў ад радасці, што сын у яго такі аўтарытэтны ў вёсцы чалавек. Потым, прызнаўся, што і дочкі яго таксама любяць музыку і мастацтва, маўляў, з іх таксама толк будзе.

Мінулай восенню, калі сталі на палявым стане камбайны пасля ўборачнай кампаніі і бярозы абапал шашы накінулі жоўтыя хустачкі, у доме культуры віншавалі перадавікоў уборкі. «Добры дзень, людзі, песень дастойныя» — так называўся тэматычны вечар, падрыхтаваны Іванам і яго актывістамі, вечар, на якім кожны з гасцей адчуў сябе імяніннікам. Віншаванні, памятныя падарункі, песні ў гонар перадавікоў спаборніцтва, затым каравай, уручаны аднаму з маладых камбайнераў і потым раздзелены паміж усімі ўдзельнікамі вечара — усё гэта было незвычайным, хвалюючым. А вось яшчэ адзін эпізод з жыцця Івана Міткевіча.

...Нехта падказаў, што сярод калгасных даярак ёсць жанчыны з нядрэннымі галасамі, і калі з імі папрацаваць, можна стварыць вакальную групу. Дачуўшыся аб гэтым, Іван пайшоў у «разведку». Вычакаўшы, калі жанчыны пасля даення зайшлі ў чырвоны куток, расказаў аб сваёй задумцы. «Ой, якія з нас спявачкі! Адчапіся, хлопча, пашукай маладзейшых, у нас і без тваіх песень клопатаў хапае і тут, і дома», — загаварылі жанчыны. «Я сам буду да вас прыходзіць з баянам. Рэпертуар — ваш народны. Ну, як згодны?» І тут не сцярпела загадчыца фермы Ганна Бабайцава: «Хіба мы якія няўмекі, ці што? Такі прыгожы хлапец прыйшоў да іх, а яны цану сабе набіваюць! Вось што, Міткевіч — запісвай мяне першую!».

Хутка першы ў раёне хор даярак выступіць з канцэртам на сцэне сельскага дома культуры.

У яго шмат задумак і хочацца ўсё здзейсніць. Хочацца дапамагчы суседняму Каваліцкаму сельскаму клубу ў падрыхтоўцы харавога калектыву — там няма свайго баяніста; паказаць, нарэшце, выступленне хору даярак, набыць касцюмы для ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Грошы, калі трэба, старшыня калгаса заўсёды адпусціць—ён для клуба сродкаў не пашкадуе. Машына патрэбна для выезду з канцэртам у іншы калгас? Калі ласка, дасць самую лепшую, ды яшчэ папярэдзіць шафёра, каб брызентам кузаў накрыў. З такім старшынёй і працаваць ахвота.

...Калі я ад'язджаў з Новых Дарог, насустрач у хмарах пылу рухаўся скрэпер з каўшом, напоўнены гравіем, і грэйдэр: ад вёскі да дома культуры, праз палетак, па распараджэнні праўлення калгаса пракладваюць дарогу-сыпанку з гравійным пакрыццём, каб у любую пару года людзі маглі, ідучы ў СДК, абуць не гумавыя боты, а туфлі і чаравікі. Дарогу ж да іх сэрцаў праклаў Іван Міткевіч, сельскі баяніст.

**М. ТЫЧЫНА.**
Старадарожскі раён.

# ГАДЗІНА ЛЯ МІКРАФОНА

По яго камандзе людзі танцуюць «Лявоніху», спяваюць «Хай заўжды будзе сонца» і з завязанымі вачыма шукаюць на падлозе кеглі... Ад яго кароценькай рэплікі дружна выбухаюць смехам... А між тым, ён зусім не падобны на заліхвацкага, разбітнога масавіка-забаўніка, дэвіз якога: хоць памры, але насмяшы публіку, і які стаў ужо мішэнню для фельетонаў. Раман Паперны — смуглявы прыгожы хлопец з тонкім выразным тварам — хутчэй падобны на інжынера, дыктара, акцёра. А ён і сапраўды акцёр. Кожную суботу і нядзелю ён — цэнтр вялікай аўдыторыі, якая, насцярожаная спачатку, паступова становіцца... мала сказаць — паслухмянай, такі кантакт усталёўваецца літаральна праз некалькі хвілін паміж гэтымі дзецьмі, моладдзю, мітуслівымі матулямі, суровымі пенсіянерамі, з аднаго боку, і адзіным чалавекам ля мікрафона. Сцэна становіцца вузенькім капітанскім мастком, а вакол — хвалямі бушуе смех, азарт спаборніцтва, аматараў паспрабаваць новы атракцыён прыходзіцца стрымліваць. Аўтарытэт Рамана дзейнічае імгненна — сціхаюць віноўныя, парушальнікі выходзяць з гульні.

Песні змяняюцца атракцыёнамі, атракцыёны — танцамі. Час ляціць хутка. Гадзіна ля мікрафона. Яна так і называецца — гадзіна гульні. Але гульня для прысутных. Для Рамана гэта—работа, вялікае нервовае напружанне. Такое абавязкова бывае ў дыктара перад тэлекамерай, у артыста перад спектаклямі; заўважаюцца і імгненныя ўспышкі прыкрасці: вунь той, збоку, бязладна і гучна падказвае вядучаму — відаць, падвыпіў... А гэты зноў і зноў лезе ў гульню — і трэба напомніць, каб даў месца іншым... А тут канчаюцца прызы — малавата выпісалі канцтавараў...

А людзі смяюцца — бесклапотна, шырока... Яны прыходзяць у парк 50-годдзя Кастрычніка адпачываць. І яны адпачываюць...

**В. БЕЛЯЗЕКА.**

# ДАЛЁКІЯ СУСТРЭЧЫ



На першым здымку—заключная сцэна спектакля «Вайна—вайне» па п'есе Я. Коласа, пастаўленай у БДТ-2 (зараз тэатр Я. Коласа) у самым пачатку 1937 года. Пастаноўка В. Дарвішава, мастакі А. Басулаеў, В. Філіпава, кампазітар М. Красеў.

Гісторыя другога здымка такая. Зімою 1967 года быў арганізаваны калектыўны прагляд калгаснікамі-ўдарнікамі і кіраўнікамі Лёзненскага раёна спектакля «Вайна—вайне». З Лёзна госці ехалі спецыяльным поездам. Іх сустракалі на вакзале прадстаўнікі тэатра, абласных і гарадскіх арганізацый. Прывезлі ў тэатр, праводзілі ў гардэроб (усё было незнаёмым), вадзілі па будынку, расказвалі пра тэатр наогул, пра БДТ-2, яго спектаклі. Многія з іх ніколі не бывалі не толькі ў тэатры, але і ў вялікім горадзе, таму гэты прыезд быў для іх незвычайным і ўражлівым. І, думаю, запомніўся на ўсё жыццё.

Пасля спектакля артысты сфатаграфаваліся ў фае тэатра разам з калгаснікамі. На жаль, памятаю толькі прозвішчы артыстаў, і то не ўсіх. Тут Л. Гепнер, Я. Глебаўская, А. Радзялоўская, І. Катовіч, П. Іваноў, В. Дарвішаў, З. Вялікі, Л. Мазалеўская, М. Бялінская, Ц. Сяргейчык... Углядаючыся ў фотакартку, пазнаю сярод артыстаў і сябе. Прозвішчаў калгаснікаў, зразумела, не ведаю. Але можа хто-небудзь з іх убачыць гэты здымак у газеце і напіша ў рэдакцыю.

Цікава было б даведацца, як склаўся лёс нашых удзячных гледачоў, што робяць яны цяпер...

Быў яшчэ адзін калектыўны прыезд (не памятаю, якога раёна) на конях. Плошча перад тэатрам была ўся занята прыбранымі санямі, коньмі. Прыехалі са сваёй музыкай — гармонікамі, бубнамі... Сапраўднае свята!



І яшчэ адна хвалюючая падзея—спектакль «У пушчах Палесся», які паставіў у тагачасным Другім БДТ рэжысёр В. Дарвішаў. Інсцэніроўка славутай аповесці «Дрыгва» фактычна была новым драматургічным творам Якуба Коласа. Калектыў прысвяціў пастаноўку 20-годдзю Вялікага Кастрычніка. Спектакль карыстаўся поспехам у гледачоў. Адной з самых дарагіх для нас была ацэнка Якуба Коласа. Ён гаварыў, што вобраз дзеда Талаша ў выкананні А. Ільінскага цалкам адпавядае таму, які «бачыўся» пісьменніку, калі ён пісаў аповесць, і адзначаў, што артыст многае «ўзяў» ад самога старога партызана ў часе сустрэч і гутарак з ім на Палессі, куды спецыяльна ездзіў на спатканне з жывым прататыпам героя. Жыццёвасць і яркасць вітаў народны пясняр і ў вобразах, створаных П. Малчанавым, Ц. Сяргейчыкам, А. Шэлегам, Р. Кашэльнікавай (прыемна, што і аўтара гэтых радкоў Колас таксама называў — гл. газету «Камунар Магілёўшчыны», № 81 1938 года).

...Засталіся пажоўклыя выразкі з газет, здымкі. І ў сэрцы захоўваецца перажытае ў тыя незабыўныя гады станаўлення і росквіту нашага тэатральнага мастацтва.

**Таццяна БАНДАРЧЫК.**

(Фота з асабістага архіва).

# З НАТХНЕННЕМ МАЛАДОСЦІ

*РАСКАЗВАЕМ ПРА ТАЛЕНАВІТУЮ БАЛГАРСКУЮ МАСТАЧКУ ДОРУ БОНЕВУ*

...Яна сама — з каштанавымі валасамі, падоўжаным авалам твару, вялікімі вачыма, пяшчотнай усмешкай балгарскіх мадон, якіх з такой любоўю пісалі майстры Адраджэння, можа быць цудоўнай мадэллю для мастака.

Дора Бонева ўступіла ў свет мастацтва 12—13 гадоў назад (нарадзілася ў 1936 годзе ў Габрове, у 1959 — скончыла Сафійскі інстытут выяўленчых мастацтваў імя Мікалая Паўловіча). Па сёння яна захавала прыроджаную жыццярадаснасць, тэмперамент. Энтузіястка «падарожжаў» па будоўлях, заводах, гарняцкіх пасёлках, яна з самага пачатку натхняецца тэмай працы. На яе ранніх палотнах — контуры будучых будоўляў. У гэтых палотнах — жвавасць успрымання, натуральнасць і шчырасць маладосці.

Сёння, як і раней, яе палітру акрыляе маладосць. Сведчаннем таму — серыя карцін: «Маладосць», «Пасля работы», «Хлопцы». Дора Бонева імкнецца да вобразнай змястоўнасці. Характэрная рыса яе мастацкай манеры — глыбокі псіхалагізм, дзякуючы якому яна раскрывае ў вобразах маладых людзей ідэі нашага часу, будучыні. Мы не толькі разумеем гэтыя вобразы, але і верым ім...

На Першай нацыянальнай выстаўцы маладых мастакоў 1961 года Дора Бонева была прадстаўлена карцінай, якая расказвае аб буйнейшай будоўлі краіны — Крэмікоўскім металургічным камбінаце: «Будаўніцтва чыгуначнай лініі». Міжвольна задаеш пытанне: чаму маладая мастачка звярнулася да тэмы, якая, здавалася б, абмяжоўвала сакавітасць палітры. Аднак Дора Бонева думала інакш. І даказала гэта сваімі наступнымі палотнамі. Яна наогул лічыць, што каларытна і жывапісна можна перадаць любую тэму, любы сюжэт.

Паўднёвы тэмперамент мастачкі не мог не адбіцца на яе палотнах. Яна аддае перавагу яркім фарбам, інтэнсіўнай гаме, дынаміцы чырвонага колеру. Вабіць яе, зразумела, і пейзаж з яго поўнымі паветра і свежасці фарбамі і прасторавасцю. Аднак перш за ўсё Дора Бонева жывапісец новага, жывапісец будоўляў, іх працаўнікоў. У вобразах людзей яе прыцягвае іх прастадушнасць, іх эмацыянальнасць.

У апошнія гады лірычны настрой мастачкі ўсё часцей прымушае яе звяртацца да цяжкага жанру партрэтнага жывапісу. На мастацкай выстаўцы 1970 года побач з іншымі работамі яна выставіла шэраг партрэтаў. Як правіла, гэта людзі, якіх яна добра ведае, чый духоўны свет ёй зразумелы і блізкі.

Дора Бонева паўстае перад намі як мастак з выразнай індывідуальнасцю і светаразуменнем. Яна ні на міг не забывае, што жывапісуючы якую-небудзь асобу, фактычна выяўляе тыповыя рысы сучаснасці, душэўнага складу грамадства.

У 1969 годзе ў сталіцы была арганізавана першая персанальная выстаўка Боневай. Было відавочна, што яна вырасла як мастак: шэраг яе работ, якія раней выстаўляліся, быў адзначан прэміямі ЦК камсамола, яна тройчы выходзіла пераможцай на сафійскіх конкурсах. Прэміяй быў адзначан і яе цікавы партрэт Рыгора Вачкава на мастацкай выстаўцы ў 1970 годзе. Першая персанальная выстаўка несумненна адыграла стымулюючую ролю ў творчасці мастачкі, пасля яе яна стварыла шэраг новых цікавых палотнаў.



Дора БОНЕВА. Балгарскі пейзаж. Масла.

У 1970 годзе Дора Бонева атрымала магчымасць пазнаёміць са сваімі работамі зарубежную публіку, выступіўшы з невялікай самастойнай выстаўкай у Кембрыджы і Лондане. Прэса адгукнулася радам пахвальных водгукаў. З няменшай цікавасцю гэта выстаўка была сустрэта і ў Венгрыі. Карціны Доры Боневай выстаўляліся і ў СССР, куды мастачка часта ездзіць, робячы замалёўкі гарадоў, помнікаў, выдатных мясцін і людзей «з ярка выяўленым рускім характарам».

Натуральна, поспех даецца Доры Боневай цаной немалой працы і любві да мастацтва. Яна ніколі не супакойваецца на дасягнутым. Верная сваёй «страсці» да людзей, будоўляў, яна раз-пораз адпраўляецца ў дарогу за новымі ўражаннямі. Яе палітру акрыляе маладосць. Магчыма, менавіта таму яна знаходзіць час і для сур'ёзнай грамадскай работы. Дора Бонева кіруе «Атэлье маладога мастака», яна — прэзідэнт Клуба маладой балгара-савецкай творчай інтэлігенцыі. Акрамя ўсяго яна — любячая маці (яе дзеці — адзінаццацігадовая дачка Марта і пятнаццацігадовы сын Уладзімір, ужо зусім «самастойны» малады чалавек, заўсёды з нецярпеннем чакаюць яе вяртання з паездкі, каб падзяліцца сваімі клопатамі, (выдатная жонка) так, ва ўсякім выпадку лічыць яе муж — вядомы балгарскі паэт, лаўрэат Дзімітроўскай прэміі, першы намеснік старшыні Нацыянальнага Савета Айчыннага фронту, нягледзячы на тое, што яму, як ён жартуе, нярэдка «ў пажарным парадку» даводзіцца выступаць у ролі мадэлі).

«Жыццё рухаецца так хутка, што яго прыходзіцца пастаянна даганяць. Варта толькі адцягнуць ад яго сваю ўвагу хоць бы на момант, і рызыкуеш адстаць на дзесяцігоддзі...» — такая творчая і жыццёвая пазіцыя таленавітай балгарскай мастачкі.

**Первалета ПРАКОПАВА.**

(«Сафія—прэс»).

# ТВОРЧАСЦЬ НАРОДАЎ АКІЯНІІ

Два стагоддзі назад мораплаўцы Кук і Бугенвіль даследавалі ціхаакіянскія астравы. Аднак па сёння яшчэ не высветлена шмат пытанняў, якія датычаць Акіяніі. Ахутаны тайнай паходжанне, звычаі і вераванні астравіцян, іх культура і своеасаблівае мастацтва. Эпапея Кон-Цікі не адкрыла вочы на вытокі палінезійскай цывілізацыі. Па-ранейшаму невядома, прыйшлі палінезійскія плямёны з Амерыкі або Азіі; па-ранейшаму не вытлумачана, чаму на адным і тым жа востраве некаторыя мастацкія вырабы вызначаюцца незвычайным рэалізмам, а іншыя — узоры «абстрактнага мастацтва».

Раскопкі на архіпелагах Меланезіі, Палінезіі, Мікранезіі пачаліся параўнальна нядаўна (каля дваццаці год назад). У ходзе археалагічных даследаванняў няспынна ўзнікаюць усё новыя загадкі.

Што ж, па сутнасці, вядома аб Акіяніі і наколькі можна гаварыць пра яе мастацтва?

Палінезія — этнаграфічны комплекс, які аб'ядноўвае ціхаакіянскія астравы паміж Аўстраліяй і Амерыкай. Здаўна яе засялялі адважныя мораплаўцы, пра якіх напамінаюць каменныя статуі, што прыйшлі на змену драўлянай скульптуры. Самая характэрная форма палінезійскага мастацтва — «тапа» або «сіапо» — раслінная тканіна, выробленая жанчынамі з унутранай кары тутавага дрэва. Яе ўпрыгожваюць інкрустацыяй, афарбоўваюць, адбіваюць на ёй арнамент і да т. п.

Меланезія — прыстанішча незлічоных і разнастайных птушак. Не дзіўна таму, што птушка — асноўны матыў меланезійскай сімволікі і іканаграфіі. Характэрны таксама (у прыватнасці, для Новай Гвінеі) культавыя будынкі, упрыгожаныя арыгінальнымі статуямі і поліхромным арнаментам.

Мікранезія аб'ядноўвае каралавыя рыфы і астраўкі, раскіданыя ў Ціхім акіяне паміж Інданезіяй і Філіпінамі на захадзе, Меланезіяй на поўдні, Палінезіяй на ўсходзе. Накшталт сваяцкіх плямёнаў Аўстраліі, Меланезіі і Палінезіі, і жыхары астравоў Мікранезіі стварылі самабытнае мастацтва. Асабліва цікавыя па-майстэрску сплеценыя цыноўкі, упрыгожаныя стылізаваным геаметрычным малюнкам.

Нягледзячы на адрозненні ў выбары сродкаў выразнасці і ў спосабах выканання творчай задумы мастакоў, усё ж няма разрыву ў этнічным і культурным адзінстве, якое характарызуе народы Палінезіі, Мікранезіі і Меланезіі. Акіянія — геаграфічны пункт, дзе спрадвеку адбываецца няспыннае змяшанне народнасцей. У ходзе гісторыі першабытныя абшчыны перажывалі міграцыі, стыхійныя бедствы, нашэсці чужаземцаў, узнікненне, заняпад і поўнае знішчэнне цывілізацый.

Культурна-этнічны комплекс, які ўтварыўся ў выніку міграцый і змяшання, даў багаты мастацкі набытак, разнастайны і адзіны па сутнасці.

Паводле вераванняў палінезійцаў, звышнатуральная сіла — «мана» ўрываецца ў лёс асобнага чалавека і абшчыны. Моцная «мана» засцерагае чалавека ад небяспекі і варожых уплываў, якія адусюль пагражаюць яму. Чалавек залежыць ад першапачатковай творчай сілы, і чым больш ён здзейсніў подзвігаў, чым вышэй яго сацыяльнае становішча, тым больш актыўна ён у ёй уздзельнічае. Для жыхароў Акіяніі няма грані паміж жыццём і смерцю — «мана» памершага не перастае дзейнічаць. Верою ў гэта растлумачваецца велізарнае значэнне культу продкаў у міфалогіі астравіцян. Упадоблены да багоў продак «Цікі» — памочнік чалавека, — больш даступны, чым грозныя і таемныя сілы прыроды.

Вераванні жыхароў Акіяніі адбіліся не толькі ў іх абрадах і рытуальных танцах, але і ў нерухомых формах выяўленчага мастацтва. Міф раскрываецца ў мудрагелістых узорах стылізаванага арнаменту, у якім пераважаюць крывая, спіраль, сплященне ліній. Арнамент складаецца з элементаў расліннага і жывёльнага свету: рыба, кенгуру. Чалавечыя фігуры сустракаюцца не толькі ў наскальных малюнках, але і на дошчачках з кары эўкаліптавага дрэва, на кераміцы, бумерангах, шчытах, дубінах, дроціках.

Творчасці народаў Акіяніі была прысвечана выстаўка, якая экспанавалася сёлета ў парыжскім Музеі Чалавека.

**Паводле бюлетэня ЮНЕСКА.**

# ПІСЬМЫ Б. ШОЎ

Англійскі прафесар Д. Х. Лоўрэнс сцвярджае, што Бернард Шоў напісаў каля чвэрці мільёна пісьмаў. Лоўрэнс — вядомы знаўца творчасці праслаўленага пісьменніка, і яму цяжка не паверыць, якой бы неверагоднай ні здавалася гэта лічба. Пасля нескладаных арыфметычных падлікаў выяўляецца, што драматург на працягу 70 гадоў сваёй літаратурнай дзейнасці адпраўляў штодзень у сярэднім па 10 пісем. Б. Шоў, як вядома, апрача п'ес, напісаў велізарную колькасць артыкулаў літаратурнага і грамадска-палітычнага характару.

Лонданскае выдавецтва «Макс Рэйнхарт» выпусціла кнігу «Выбраныя пісьмы» Бернарда Шоў, у якую ўключана толькі нязначная частка яго перапіскі — каля 650 пісем, хоць у томе звыш тысячы старонак. Прыкладна дзве трэція гэтых пісем, адзначае ў прадмове Лоўрэнс, публікуюцца ўпершыню.

Немагчыма пералічыць тэмы, якіх кранаецца Шоў у сваіх пасланнях сябрам, чытачам, выдаўцам, журналістам, пісьменнікам, акцёрам. Сярод яго адрасатаў — Фабіянскае таварыства, шэкспіраўскі мемарыяльны тэатр, Акадэмія драматычнага мастацтва, таварыства аўтараў, савет гарадскога раёна, дзе жыў Шоў, і нават клуб веласіпедыстаў. Шоў піша пра важнейшыя грамадскія падзеі свайго часу, разважае аб прызначэнні чалавека і мастацтва, аб каханні, аб рэлігіі, расказвае пра сябе і пра свае творы. У поўным парадоксаў пісьме Льву Талстому, якое напісана ў 1910 годзе, Бернард Шоў тлумачыць, напрыклад, чаму ён лічыць, што бога не існуе.

Усе спробы зменшыць значэнне творчасці Шоў церпяць паражэнне, і яго творы па-ранейшаму прыцягваюць чытачоў і гледачоў, піша газета «Іўнінг стандард» у рэцэнзіі на кнігу выбраных пісьмаў. Рэцэнзент газеты «Файнэншл таймс» мяркуе, што сакрэт поспеху Шоў як драматурга заключаецца ў яго шырокай цікавасці да грамадскага жыцця.

**В. ВАСІЛЕЦ.**
(Кар. ТАСС).

Лондан.

# РАСКОПКІ ГАЛЬСКАГА ФОРУМУ

У ходзе будаўнічых работ у Парыжы пад вуліцай Суфло, у сэрцы Лацінскага квартала землякопы выявілі сляды цэнтральнай часткі форуму старажытнага гальскага горада Лютэцыя. Васемнаццаць стагоддзяў таму назад ён узвышаўся на гары св. Жэнеўевы, недалёка ад цяперашняга Пантэона.

Дакладнае месцазнаходжанне форуму было ўстаноўлена яшчэ ў другой палавіне XIX стагоддзя Тэадорам Вакэ, які рабіў раскопкі старажытных помнікаў Парыжа, у прыватнасці, пад цвінтаром сабора Нотр-Дам. Ён першы аднавіў планы палаца і тэрм Клюні, рымскай вілы на вуліцы Гей-Люсака, арэн Лютэцыі, антычнага Адэона. Паводле меркаванняў даных Вакэ і некаторых іншых археолагаў, велічны форум Лютэцыі быў узведзен у II стагоддзі нашай эры. Ён прадстаўляе сабой вялікую прамавугольную плошчу, акружаную высокай вонкавай сцяной, пад якой змяшчаліся порцік і элементы каланады.

У 1971 годзе былі праведзены вялікія раскопкі ў раёне вуліцы Суфло. Археолагі выявілі прыблізна 60 сцен (некаторыя з іх былі пабудаваны пазней — у XIV стагоддзі), частка надмагільні Карла Валуа, манеты, кераміку, кавалкі фустоў калон і, галоўнае, цоколь цэнтральнага прамавугольнага форуму, а таксама дзве паралельныя з ім сцяны.

Уздоўж усяго цоколя ўзвышалася галерэя шырынёй у 60 см. Ля ўсходняга канца даўжэйшага боку прамавугольніка выяўлены дзіўна размешчаныя блокі. На адным з іх чырвонай вохрай напісана: «Дамітран». Напэўна, гэтыя каменні можна аднесці прыкладна да 150 г. н. э. З усходняга боку форуму ўдалося выявіць добра захаваную галерэю са слядамі апалубкі.

**«Навіны ЮНЕСКО».**

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**



Творчы тупік. Мал. Д. МІХЛЕЕВА.

Я. ГЕРЦОВІЧ

## ЧАГО НЕ БЫВАЕ

Бываюць дні вясны сярод зімы,
Вароны хваляць цёплую пагоду,
І тыцкаюцца млявыя самы
Насамі ў тоўшчы лёду.

Мікола Арочка.

**Бываюць і зімою дні вясны.**
**Мядзведзь-шатун шукае броду.**
**І тлустыя пудовыя ўюны**
**У юшку просяцца з-пад лёду.**
**Ды не зважае на мароз**
**Паэт у пошуках прывалу.**
**Душа гарыць, ды мерзне нос,**
**Было натхненне — і прапала.**
**А з ім прапала і вясна,**
**Упрочкі збегла без дазволу,**
**І рэкі вымерзлі да дна,**
**І з голаду памерлі пчолы...**
**Без мёду еў паэт аладкі,**
**Калі пісаў свой верш нашчадкам.**

## ТВОРЧАЯ СТАЛАСЦЬ

Сустракаю ўсход прамяністай зары,
Не гублюю слядоў у дрымотным бары,
Не баюся адзін заблудзіцца ўначы...

Яўген Крупенька.

**Не баюся акул, не баюся кітоў,**
**Не баюся мышэй, не баюся катоў,**
**Не баюся ваўкоў, не баюся сабак...**
**...Не баюся, што верш напісаў абы як.**

## МІМАХОДЗЬ

☐ Часта ўжываў словы «Уласна кажучы», хоць уласных думак ніколі не меў.

☐ Сілу прыцягнення зямлі асабліва адчуваў пасля лішняй чаркі.

☐ Лічыў сябе сейбітам — сеяў насенне разладу.

☐ — Ты з кожным днём чарсцвееш, папракала булка бохан хлеба.

☐ Распісацца ва ўласнай дурноце — гэта паставіць сваё прозвішча пад бяздарным творам.

☐ Ні пуху, ні пяра — птушкаферма, якая правaліла план вытворчасці прадукцыі.

Ул. Рудзінскі.

☐ Рэпутацыю можна падмачыць і сухім вінам.

☐ Дэвіз: жыць па законах сумнення.

☐ Чорнае ў нас жыццё, — скардзіліся супрацьсонечныя акуляры.

☐ Уменне начальніка: будучы маленькага росту, глядзець на падначаленых звысака.

В. Палаўкоў.

Арт БУХВАЛЬД

## Размова НІКСАНА з Бобі ФІШАРАМ

Хутка прэзідэнту Ніксану спатрэбіцца прыняць адно з найважнейшых рашэнняў за час яго прэзідэнцтва. Яму неабходна вырашыць, ці размаўляць па тэлефоне з Бобі Фішарам — прэтэндэнтам на званне чэмпіёна свету па шахматах, ці не.

Даўно ўжо не было такога чалавека, як Бобі Фішар. Захапленне ім да матча і ў час яго правядзення схіліла аднаго з аматараў шахмат напісаць у газету: «Фішар з'яўляецца адзіным амерыканцам, які можа прымусіць усіх грамадзян Амерыкі стаць на бок Расіі».

Калі мы прыгадаем, што выкінуў Фішар у Ісландыі, то тэлефонная размова магла б атрымацца такая:

— Хэло, Бобі. Гэта я, прэзідэнт Ніксан. Я званю, каб пажадаць табе перамогі ў Ісландыі.

— Карацей. Я стомлены.

— Бобі, гэта будзе вялікі дзень Амерыкі.

— Гэта будзе мой вялікі дзень. Я выйграю 150 тысяч долараў і пакажу гэтым ісландскім тумакам, што такое я.

— Ведаеш, Бобі, калі я вучыўся ў каледжы, я ледзьве не пачаў гуляць у шахматы.

— А шкада.

— Але я добра гуляў у футбол.

— І дзеля гэтага вы мне звоніце?

— Хвілінку, Бобі. Я заўсёды званю тым, хто здабывае славу Амерыцы. Калі ты вернешся, я хацеў бы ў твой гонар даць абед у Белым доме.

— А колькі вы мне заплаціце за прысутнасць на прыёме?

— Заплаціць? Мы не плацім за ўдзел у такім абедзе!

— Дык што ж я тады з гэтага буду мець?

— Я запрашу членаў свайго кабінета і вярхоўнага суда, членаў кангрэсу і ўсіх багатых шахматыстаў-рэспубліканцаў з усёй краіны. Будзе таксама запрошаны аркестр Ламбарда, каб іграць нам у час абеду. Для каго яшчэ я магу зрабіць больш, чым для цябе, Бобі? Ты пераможаш вялікага Спаскага...

— Добра. Я прыйду, але пры такой умове: вы вышлеце ў Ісландыю прэзідэнцкі самалёт. На аэрадроме вы мяне прывітаеце асабіста, падасцё лімузін, закажаце нумары ў атэлі, а таксама забяспечыце прыватны тэнісны корт, плавальны басейн і 10 сакрэтных агентаў, каб ахоўваць мяне ад дакучлівых журналістаў.

— Думаю, Бобі, што я магу гэта зрабіць.

— І ніякіх тэлевізійных камер.

— Ніякіх тэлевізійных камер?

— Я ненавіджу іх. Яны выводзяць мяне з раўнавагі. Калі я ўбачу ў час абеду хоць адну тэлевізійную камеру, то адразу ж уцяку.

— Не хвалюйся, Бобі, ніякіх камер не будзе.

— І ніякіх размоў, калі я буду есці. Я не магу есці, калі хто-небудзь размаўляе.

— Бобі, вельмі цяжка зрабіць так, каб у час абеду ў Белым доме ніхто не размаўляў.

— Гэта вырашайце самі. Калі я пачую чый-небудзь голас, то вам трэба будзе шукаць другога чэмпіёна свету па шахматах.

— Зробім усё, што трэба, Бобі. Гэта ж абед у твой гонар.

— А калі пачынаецца трапеза?

— Думаю, што гадзін у восем вечара.

— Тады я прыйду ў дзевяць. Не люблю глядзець на тупых, напышлівых палітыканаў.

— Разумею цябе, Бобі.

— І яшчэ. Я прынясу сваё ўласнае крэсла. Не магу есці седзячы ў чужым крэсле. Вам таксама варта ведаць, што я не выношу яркага святла. Калі зала будзе надта асветлена, я і за стол не сяду.

— Добра, Бобі. Я хацеў бы толькі дадаць, што мы ўсе вельмі хвалюемся за цябе. Ты натхняеш усю амерыканскую моладзь.

Прэзідэнт паклаў трубку і тут жа набраў нумар дырэктара ЦРУ Рычарда Хелмса.

— Дзік, вышлі мой самалёт у Ісландыю па Бобі Фішара. Зрабі мне такую ласку. І пастарайся, каб самалёт быў захоплены паветранымі піратамі.

Пераклаў з англійскай В. КАЛАЧЫНСКІ.

Марат БАСКІН

## СУСЕДЗІ

Кватэру мяняю. Мо ведаеце, каму трэба? Я і аб'яву прышпіліў на слупе, каля аўтобуснага прыпынку. Народ там увесь дзень таўчэцца — заўважаць. Чаму мяняю, спытаеце? З-за суседзяў. Прычапіліся, што тыя п'яўкі — смяюцца з мяне. Усё пытаюцца: «А дзе кран цячэ?»

А хто ім мяне выдаў? Мая жонка. Усё выклала, як на талерку. А да гэтай самай гісторыі жыццё было проста цуд. Мае суседзі мяне за вярсту абыходзілі, бо я іх у руках трымаў. Хоць сур'ёзнае што, хоць дробязь. Моўчан штурхнуў кацяня, думаў, што ніхто не ўбачыць. Ды я прыкмеціў. А Баравікоў увесь час нешта ў скрутках дамоў цягае. Ці не крадзе? Раз — і ў іх фабком ліст шлёпнуў. Яшчэ і дасюль разбіраюцца. Ды пра ўсё гаварыць — часу не хопіць.

А вось укляпаўся. З-за Дзятловічаў. Маладажоны яны. Жывуць за сценкай у суседняй кватэры. Прыходзяць недзе за поўнач. Гавораць, што па тэатрах бегаюць. А я нюхам чую, што недзе проста так швэндаюцца...

Мне нават вуха да сцяны прыкладаць не трэба, усё чутно, бы ў тэлевізары, калі гук ёсць, а на экране — цёмна. Слых у мяне — усім бы такі! Яны цмокнуцца — і то чую...

Неяк прачынаюся — вада цурчыць. Хлюп-хлюп... Няйначай, суседзі кран закруціць забыліся. Ну, цяпер паскачуць! Паплывуць іх пантофлі караблікамі. Буджу жонку:

— Прачніся! Чуеш?

Жонка вушы наставіла.

— Цячэ вадзічка, — даводжу ёй. — Цячэ, роднenькая. Пэўна, з абодвух кранаў: і халодная, і гарачанькая. А мы заўтра скаргу ў ЖЭК, і — кропка, аштрафуюць!

— Ой, у іх жа новы венгерскі гарнітур! — радасна ўсплёснула рукамі жонка. — Ён жа страшэнна вады баіцца, пакарабаціцца!

— Была дарагая рэч, будуць — запчасткі, — адказваю я, смеючыся. — Чуеш, як плешча, нібыта на той Нарачы... Падымецца вада, хутка і цераз акно ірване... А яны спяць, бы проса прадаўшы... Хатні басейн робяць сабе... Ха-ха-ха!.. Хутка ў Яўменчыкаў са столі капаць пачне. От тады я іх і разбуджу... Ох і дам я ім у косці, ох і расчышчу!..

Раптам як загрукае нехта да нас у дзверы.

— Адчыняйце!

Нахабства нейкае, сярод ночы так грукаць.

— Андрэй Сяргеевіч!

Ага, мяне завуць! Здаецца, Дзятловіч. Пакрычы-пакрычы сабе. Дудкі я табе адгукнуся. Жонцы знакі раблю, — не варушыся, маўляў.

Стукаў-стукаў ён у дзверы, ды некуды ўсё ж знік.

«Пранесла», — думаю. Аж тут мяне затрэсла, бы да электрычнага дроту дакрануўся. Жончын бот і мой чаравік ціхенька падплываюць да мяне, гойдаюцца на хвалях. Што, адкуль? Прыглядзеўся — вада ў маёй спальні ўзнялася аж да спінкі ложка!

— Божа! Гэта ж у нас краны не закручаныя! — залементавала я.

— Як жа мы да дзвярэй дабяромся? — завойкала жонка. — Я ж і плаваць не ўмею, утаплюся...

І тут нашы дзверы знянацку шырока расчыніліся, ускочылі Дзятловіч з жэкаўскім слесарам, пачалі нас ратаваць. Прыбеглі і Баравікоў з Цэдлікам. Гвалт!

Так бы і прайшло цішком. Ды мая жонка ім, дурная, усё і расказала... Думалі, кажа, што гэта суседзяў цурчыць з крана, вось і не адчынялі дзверы...

Усе — у рогат... І цяпер (прайшло ўжо колькі часу!) не сунімаюцца: кпяць... Вось і мяняю кватэру. Мо ведаеце, каму трэба?

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 32-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.